НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 44 (785) 28 лістапада 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў м[illegible]: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Роля даносчыка ў гісторыі

Справа атрада Івана Богдана. Пра невядомыя раней эпізоды Слуцкага паўстання піша Ніна Стужынская. Старонка 13.



## Беларусы на будоўлях Сібіры

«У Беларусі зарабіш 4 мільёны, а ў Расіі — усе 20». Старонка 6.

# Лукашэнка мон амур

«Ён ім даваў тое, што яны прасілі, але яны прасілі не тое і вінаватыя самі». **Старонка 3.**




**Тэндэнцыі**

## Каталонія ідзе да незалежнасці



На датэрміновых выбарах у парламент Каталоніі чатыры незалежніцкія партыі здабылі 65% месцаў у парламенце. Незалежнікі хочуць правесці рэферэндум аб суверэнітэце. Такая перспектыва стала магчымай пасля таго, як да патрабавання незалежнасці далучылася кіраўнічая партыя «Канвергенцыя і саюз», якая раней абмяжоўвалася патрабаваннямі самастойнасці ўнутры Іспаніі.

Мадрыд пярэчыць прэтэнзіям Барселоны на суверэнітэт, а паводле канстытуцыі на плебісцыт патрэбны дазвол цэнтральнага ўрада. Да таго ж, вялікія лічбы каталанцаў жывуць за межамі рэгіёна Каталоніі, у суседніх правінцыях. Таму разыходжанне дзвюх краін можа аказацца напружаным, а вызначэнне межаў новай дзяржавы — складаным працэсам.

**Знакамітыя каталанцы**

Мастак Сальвадор Далі, бізнэсовец Факунда Бакардзі — стваральнік рому Bacardi, спявак Жузэп (Хасэ) Карэрас, футбаліст Жузэп (Хасэп) Гвардыёла.

**Працяг на старонцы 2.**

**Споведзь**

### Ліст былой жонкі афіцэра

Хачу расказаць, як робяць байцы Унутраных войскаў, абаронцы. **Старонка 5.**



**Што б гэта значыла?**

### У Гомелі скралі віртуальны танк

Анлайн-гульня World of Tanks выклікае жарсці. **Старонка 8.**



**Тэатр**

### Нялялечныя «Дзяды»

У Тэатры лялек паставілі спектакль паводле Міцкевіча. Без лялек. **Старонка 9.**



**Гламур**

### «Я магу зрабіць так, каб пра вас гаварылі дрэнна»

Гісторыя поспеху «бажэсцвеннага Зураба». **Старонка 15.**



# На Каляды і Новы год чыгунка пусціць 46 дадатковых цягнікоў

Беларуская чыгунка ад 22 снежня да 8 студзеня прызначыла 46 дадатковых цягнікоў для перавозкі пасажыраў унутры краіны з прычыны большага пасажырапатоку на святы.

У тым ліку 31 дадатковы цягнік будзе курсіраваць па запатрабаваным маршруце Мінск — Гомель — Мінск і 9 саставаў — у напрамку Мінск — Брэст — Мінск. Таксама дадаткова прызначана 6 цягнікоў па маршруце Мінск — Пінск — Мінск.

Падчас калядных і навагодніх святаў па беларускай магістралі будуць курсіраваць больш за 40 дадатковых саставаў у міжнародных камунікацыях.

У першую чаргу, яны будуць перавозіць пасажыраў па маршрутах Мінск — Масква — Мінск, Брэст — Масква — Брэст, Брэст — Санкт-Пецярбург — Брэст.

Акрамя таго, у пікавыя дні перавозак у цягнікі будуць уключацца дадатковыя вагоны.

**БелТА**

## Мітрапаліт гуляе ў футбол

У Лідзе 26 лістапада завяршыўся І чэмпіянат Беларусі па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў. У ім узялі ўдзел шэсць камандаў: па адной з кожнай дыяцэзіі — Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Пінскай, а таксама каманды з гродзенскай і пінскай духоўных семінарый. Перад спаборніцтвамі на полі адбылася імша ў лідскім фарным касцёле, якую ўзначаліў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які затым згуляў у футбол. Першае месца заняла каманда Гродзенскай дыяцэзіі.

**СГ**




## Цяжарная скрала грошы ў акушэркі — і напілася на іх

Выпадак адбыўся ў Магілёве.

Цяжарная 26-гадовая магілёўка скрала кашалёк у работніцы бальніцы хуткай дапамогі. У дачыненні да жанчыны Ленінскім райаддзелам СК заведзена крымінальная справа.

У медыцынскую ўстанову жанчына прыйшла, каб паставіць штамп на даведцы. Дэфілюючы па калідоры, яна зайшла ў пусты сястрынскі пакой (дзверы былі адчынены) і выцягнула кашалёк з сумкі адной з акушэрак. Вярнуўшыся дадому, жанчына пералічыла грошы — 400 тысяч рублёў. Купіла спіртнога і адправілася да сяброўкі — там яе падчас застолля і затрымала міліцыя. Да таго часу будучая мама ўжо паспела добра набрацца. Жанчыну раней ужо судзілі за крадзяжы, цяпер ёй пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі.

**СГ**

**Фотафакт**




PHOTO BYMEDIA.NET

**26 лістапада былі канфіскаваныя офіс і маёмасць былога Праваабарончага цэнтра «Вясна». Рашэнні суда аб канфіскацыі ўступілі ў сілу яшчэ ў жніўні, і вясноўцы жылі ў чаканні высялення. У гэтым офісе праваабаронцы працавалі 12 гадоў, яго наведалі за гэты час тысячы людзей. Вясноўцы, аднак, абяцаюць працягваць сваю дзейнасць і шукаюць новае памяшканне.**

### Сцісла

**Бяляцкі перадаў 10 тысяч еўра праваабаронцам**

Палітвязень і праваабаронца Алесь Бяляцкі ўганараваны міжнароднай прэміяй Кэлі. Узнагароду ўручылі Наталлі Пінчук, яго жонцы. Цырымонія адбылася ў Берліне. Раней Бяляцкі адмовіўся ад грашовага складніка прэміі — 10 000 еўра. Ён папрасіў аддаць грошы на падтрымку праваабарончай дзейнасці ў Беларусі. Прэмія Петры Кэлі прысуджаецца Фундацыяй імя Генрыха Бёля за актыўны ўдзел у барацьбе за захаванне правоў чалавека.

**«Шпіён» Гайдукоў застаецца ў вязніцы**

На «Нафтане», дзе хлопец працаваў аператарам, у яго «шпіёнскую дзейнасць» не вераць. Затое кажуць, што Гайдукоў хадзіў на працу ў спартыўным касцюме з нашытай «Пагоняй», а заводскі ідэолаг выклікаў яго на гутаркі падчас «маўклівых пратэстаў». Наваполацкія актывісты збіраюць сродкі для сям'і Андрэя Гайдукова — на адваката і перадачы ў СІЗА КДБ, дзе ад 8 лістапада ўтрымліваюць Гайдукова. КДБ падазрае яго ў «здрадзе дзяржаве» і ў тым, што ён «закладаў тайнік для замежных спецслужбаў».

**«Белсат» значна скарачае вяшчанне**

Ад 26 лістапада змяніўся рэжым трансляцыі незалежнага спадарожнікавага тэлеканала, што вяшчае на Беларусь з Польшчы. У вымушаны адпачынак сыдуць амаль усе рэгулярныя праграмы. Інфармацыі не стане менш, але навіны будуць выходзіць без вядоўцы. Прычына — брак сродкаў.

**20-гадовы на «Лексусе» збіў шасцікласніцу на пераходзе**

Дваццацігадовы кіроўца дарагой машыны падчас левага павароту наехаў на 11-гадовую школьніцу. Яна пераходзіла брэсцкі Партызанскі праспект па пешаходным пераходзе, на зялёнае святло. У дзяўчынкі — закрытая чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мозгу і закрыты пералом левага пляча. Кіроўца абавязаны быў прапусціць пешахода. Раней гэтага аўтамабіліста не раз затрымлівалі за перавышэнне хуткасці.

**СМ; радыё «Свабода»**

# Каталонія ідзе да незалежнасці

Працяг са старонкі 1.

Каталонія багацейшая за рэшту Іспаніі. Гэта рэгіён з працавітым насельніцтвам, развітай прамысловасцю і турызмам. Цяпер Каталонія аддае ў цэнтральны бюджэт Іспаніі на 19 мільярдаў еўра больш, чым атрымлівае з яго. Гэта стала моцным аргументам для прыхільнікаў суверэнітэту.

**Мікола Бугай**

**Каталанская мова**

У каталонцаў ёсць свая асобная культура і мова. Яна стаіць між іспанскай і французскай, прыкладна таксама як беларуская падобная і да расейскай, і да польскай.

У часы франкізму каталанскую мову не вывучалі ў школах, яе вывелі з публічнага ўжытку. Але пасля падзення дыктатуры адбылося яе адраджэнне. У апошнія гады Франка на каталанскай мове ў гарадах не гаварылі, а цяпер у парламенце Каталоніі дэбаты вядуцца амаль толькі на ёй.

На сёння каля 35% насельнікаў Каталоніі аддае перавагу каталанскай, 45% — іспанскай. 20% актыўна карыстаюцца ў побыце абедзвюма мовамі ці трасянкай.

Пры гэтым у Каталоніі дзейнічаюць меры, накіраваныя на падтрымку нацыянальнай мовы.



### Самае чытанае на nn.by за 21—27 лістапада

1. 50 прычын, чаму беларусы не гавораць па-беларуску
2. «Слава Расіі»: на Славянскі марш у Магілёве сабралася 20 чалавек
3. «Мне абрыдла адчуваць дыскрымінацыю за беларускую мову»
4. Радзіна: выехаць у Расію мне дапамагла Адміністрацыя прэзідэнта РФ
5. Між урадам і Адміністрацыяй прэзідэнта зноў узніклі супярэчнасці
6. Белсат значна скарачае вяшчанне
7. «Я магу зрабіць так, каб пра вас гаварылі дрэна»: Ірына Кабасакал пра бажэсцвеннага Зураба і Pinguin
8. Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў парушэнні ў справе Кавалёва
9. БелТА: «Лукашэнка нават з паветра разгледзеў шматлікія прыкметы безгаспадарчасці»
10. Двухгадовы хлопчык, які разбіўся з бацькамі пад Лоддзю, памёр

# Лукашэнка мон амур

Эсэ. Піша **Стась Карпаў**.

### 451 градус

Рэй Брэдберы, які казаў, што галоўнае для яго — не перараставаць здзіўляцца, вагаўся паміж гіпертрафаванай гуманістычнай сентыментальнасцю і мізантропіяй у чыстым выглядзе — так моцна яго здзіўляў штодня бліжні. Адпаведна, у ягоных творах нярэдка два гэтыя светапогляды перацякаюць адзін у адзін.

У яго класічным раманеантыўтопіі «451 градус па Фарэнгейту», у якім пажарныя займаюцца спальваннем кніг, а дзяржава дэперсаналізуе ўласных грамадзян, пажарны Монтэг вагаецца між двума процілеглымі светапоглядамі.

Настаўнік Фабер пераконвае нашага героя ў вялікай каштоўнасці нематэрыяльнага свету. Начальнік Монтэга, брандмайстар Біці, у пэўны момант пачынае даказваць, што ў вялікіх ведах вялікі смутак і працэс знішчэння кніг — ёсць актам літасці ў дачыненні да экзальтаванага гома сапіенса. Тым не меней, перадатчык у вуху ў Монтэга, што даў яму настаўнік, дазваляе Фаберу чуць працэс прамывання мозгу свайго сябра і падказваць антытэзы: «...пастарайцеся разабрацца і вырашыць, з кім вы. Але я хачу, каб вы вырашылі гэта самі... Аднаго толькі не забывайце — брандмайстар належыць да ліку самых небяспечных ворагаў праўды і волі, да тупога і абыякавага статку нашай большасці. О, гэтая жахлівая тыранія большасці. Мы з Біці пяём розныя песні. Ад вас самога залежыць, каго вы станеце слухаць...» — кажа Фабер.

Ніякіх асаблівых высноваў герой самастойна не зрабіў, і старога настаўніка ён выслухаць не паспеў.

Праўда нараджаецца ў спрэчцы толькі для ўдзельнікаў ці сведкаў спрэчкі. Для тых жа, хто нерэгулярна сутыкаецца з антаганістычнымі пастулатамі, праўда замяняецца на патрэбу інтуітыўна прыняць у спрэчцы нейкі бок.

У нас нядаўна было чарговае свята са слязьмі на вачах. Дзевятнаццаты год з намі і над намі ў выглядзе марксаўскай надбудовы чалавек, для якога па метафарычным сюжэце спальванне кніг — спосаб захавання стабільнасці. І дзевятнаццаты ж год голас старога выкладчыка ў вуху не кажа нам нічога цікавага і амаль нічога бясспрэчнага.

«Фабер у вуху» — не нейкі канкрэтны чалавек. Гэта рэха ідэй, якія тыражуюцца і аднаўляюцца, мінаючы галаўны мозг людзей, якія іх тыражуюць і аднаўляюць.

Гэта калектыўныя догмы, якія, будучы догмамі, нібыта тлумачаць чалавеку яго рэчаіснасць, а на самой справе не тлумачаць нічога, канчаткова заблытваючы і замінаючы бачыць перспектыву.

Наша антыўтопія мае свае асаблівасці. Наш брандмайстар такі ж спрэчны, як і ў класіка, але Фабер — куды больш неадназначны.

Да таго, як нашу з умоўным Фаберам радыёсувязь перарвалі, ён паспеў сказаць болей, чым літаратурны. Што Лукашэнка кепскі, бо ён дыктатар. Што тыранія большасці — гэта невыносна, а меншасць мае рацыю па праве меншасці. Што яна заўсёды рухавік прагрэсу і інтэлектуальная соль. Што Лукашэнка адрадзіў і выгадаваў клас людзей, якія не хочуць працаваць, а хочуць атрымліваць зарплату. Што Лукашэнка — пазіцыя, а ўсе астатнія — апазіцыя...

Прымаючы гэта на веру, чалавек пачынае жыць у свеце настолькі дыскамфортным, што імкненне змяняць яго на першы погляд выглядала б натуральным. Але адказы, якія нараджаюцца пад уплывам такога светапогляду, прымушаюць чалавека лічыць сваё становішча безнадзейным. Гэты іманентны эмпірызм вядзе ў нікуды.

Паспрабуем разабрацца ва ўсім падрабязней.

### Міф першы. Тыранія большасці

Успрымаючы час як стан, чалавек не бачыць мажлівасці руху для сябе. Тут, як казаў Бродскі, — «канец перспектывы».

Усведамляючы неабходнасць змяніць свет для дасягнення камфорту, наш Монтэг адмаўляе для сябе такую магчымасць. Змагацца поруч з большасцю нельга, бо большасць, якая выбрала сабе такога прэзідэнта, — оруэлаўскія пролы, якія толькі п'юць піва і гуляюць у латарэі. Монтэг выбірае сабе ролю выключнага-пакрыўджанага і ўпарта супрацьпастаўляе сябе брандмайстрам, якія, у сваю чаргу, таксама не маюць асаблівых аргументаў, акрамя дэкларацыі сваёй большасці.

Монтэг паступова пачынае любіць сябе толькі за сваю прыгнечанасць.

Пасля паняцце большасці будзе трансфармавана ім у паняцце пасіўнай большасці, а меншасці — у паняцце актыўнай меншасці. На гэтым працэс спыніцца і пачнецца стан. Бо крыўда, у адрозненне ад злосці, — ёсць станам пасіўным. У ім чалавек перастае ствараць і замыкае сваю дзейнасць на сабе. Ён займаецца генераваннем унутраных маналогаў тыпу: «Я лепшы за іх, бо...».

> **Нехта павінен быў даказаць (няхай і за 18 год), што цудаў не бывае »**

Адпаведна, грамадства існуе ва ўмовах, дзе меншасць ганарыцца тым, што яна меншасць, і грэбуе большасцю, бо адмаўляе сабе ў магчымасці перацякаць у большасць і зліваецца з ёю, вылучаючы з сябе новую меншасць. Не будзем сумнявацца, што Лукашэнку на пэўным адрэзку часу выбірала большасць. Магчыма, большасць за яго прагаласуе і на наступных выбарах. Але, у сваю чаргу, Лукашэнка мусіць прыняць наступны факт: калі галасуе большасць — у перспектыве і расчароўваецца большасць. Так было з усімі. З усімі да аднаго.

Ці ведаеце вы людзей, якія за апошні час сталі прыхільнікамі палітыкі Лукашэнкі? Між тым, перад маімі вачыма безліч прыкладаў расчаравання.

Вядома, што Майсей вадзіў яўрэяў па пустэльні сорак год з мэтай дачакацца радасная моманту смерці апошняга постегіпецкага раба. Наша сітуацыя ад іхняй адрозніваецца толькі адсутнасцю неабходнасці хадзіць. Калі ўспрымаць час як працэс, становіцца відавочна, што карысная функцыя Лукашэнкі ў тым, што ён даў людзям магчымасць у самай яўнай форме рэалізаваць чаканні ад унутранай палітыкі. Просты прыклад: дзеці пад наглядам бацькоў таксама павінны мець мажлівасць дакрануцца пальцам да гарачага праса. Затое так яны не будуць сумнявацца ў атрыманні пашкоджанняў пры кантакце з гарачым металам.

> **Ці ведаеце вы людзей, якія за апошні час сталі прыхільнікамі палітыкі Лукашэнкі? »**

Такім чынам, здзіўляючыся вынікам выбараў 1994-га, Монтэг павінен быў бы зразумець, што колькасць людзей, не падрыхтаваных да рынкавых адносінаў і да скасавання інтэрнацыянальнай дзяржавы, была крытычнай. Людзям 70 год абяцалі «ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбах». Таму ім быў неабходны паступовы курс пераходу да новых рэаліяў, няхай сабе і расцягнуты на дзесяцігоддзі.

Мы, будучы меншасцю цяпер, няўхільна перацякаем у большасць. Гэта — заслуга Лукашэнкі. Дзякуй яму. Лукашэнка мон амур.

### Міф другі. Пакайся!

Фабер прашаптаў на вуха, што апазіцыя павінна каяцца за тое, што яна дапусціла Лукашэнку да выбараў у 1994-м і не замяніла яго на сябе да нашага часу.

Давайце паглядзім, чаму і што адбылося на самой справе. У любой дэмакратычнай дзяржаве ўлада рана ці позна прайграе апазіцыі. Знакамітая скрыня цвікоў і шчырыя абяцанні адабраць, пасадзіць, а рэшту — падзяліць — усё гэта адпавядала чаканням электарату Лукашэнкі.

Монтэг павінен для сябе вырашыць, чаго ён чакае ад палітыкаў.

Ён хоча ставіць у віну Шушкевічу тое, што ён не быў Лукашэнкам, ці тое, што Лукашэнка на дадзены момант — не Шушкевіч, якога прынята згадваць з паблажлівай усмешкай, паўтараючы Фаберавы мантры тыпу: «Шушкевіч не быў палітыкам» ці «Пазняк спужаў беларусаў сваёй радыкальнасцю». Нібыта французы станавіліся бельгійцамі з прычыны з'яўлення нацыяналіста Лё Пэна, а не сацыяліста Алянда.

Сутнасць жа ў тым, што Лукашэнка прыйшоў да ўлады, бо нехта павінен быў даказаць (няхай і за 18 год), што галеча не знікае пасля рытуалу вяртання савецкай сімволікі. Так што дзякуй яму другі раз і зноў Лукашэнка мон амур.

Усё адбывалася так, як мусіла. Улада прайгравала, апазіцыя перамагала. Усё згодна з дэмакратычнай працэдурай.

...А пасля Лукашэнка стаў дыктатарам.

### Міф трэці. Нічога, акрамя кайданоў

А я таксама не перастаю здзіўляцца. Звычайна чалавеку на фармуляванне прэтэнзій да бліжняга хапае некалькіх хвілін. Бывае — некалькіх дзён. Некаторыя людзі генеруюць прэтэнзіі да бліжніх завочна і бязадрасна кожную секунду ўсё сваё радаснае жыццё. Але калі справа даходзіць да Аляксандра Рыгоравіча — Монтэгі пачынаюць несці нейкія глупствы. Самае пашыранае з іх: «Лукашэнка кепскі, бо ён — дыктатар».

На першы погляд, матрыца ў нас абсалютна зразумелая. Дыктатура — гэта кепска, а дэмакратыя — гэта добра. Разважаючы пра такія паняцці, Монтэг мае на ўвазе не саму з'яву, а нейкія ідэальныя ўяўленні пра яе. Монтэг за роўныя правы, Монтэг за абсалютную свабоду, Монтэг — за дзяржаву для народа, а не наадварот. Ён чуў, што пры дэмакратыі ўсе жывуць шчасліва, а пры дыктатуры вакол канцлагер і вараньні. Пры гэтым у разлік не бярэцца той факт, што сегрэгацыя неграў працягвалася цэлае стагоддзе пры дэмакратыі, а інквізіцыю адмяніў дыктатар і самадур Напалеон. Наш герой мысліць катэгорыямі электронных прыладаў па прынцыпе «калі — то».

Але вось пытанне: уявім, што да ўлады прыйшоў антылукашэнка, якім бы хацелі яго бачыць тыя, хто ставіць П(іА)ПРБ у віну схільнасць да дыктату.

Давайце паглядзім, як яго ўяўляюць многія героі інтэрнэтфорумаў. Гэта мусіць быць, папершае, такі ж самы арганізм, які «не распрадасць». Адсюль няўмольна вынікаюць усе неабходныя якасці. Спыніцца на іх не будзем — бачылі.

Па-другое, яго, імаверна, таксама павінна вельмі клапаціць моўнае пытанне. Ці павінен ён казаць, што ў свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы: беларуская і англійская? Ці мусіць ён заявіць, што ўсе, хто хоча ў Беларусі гаварыць па-расейску, — пятая калона і найміты Усходу?

Мажліва, будучы выказанымі па ТБ нашым уяўным прэзідэнтам, гэтыя сентэнцыі выклікалі б вялікую хвалю захаплення шмат унутры каго. І не выключана, што і ўнутры мяне.

Дык за што ж, Монтэг, ты не любіш брандмайстра Біці? Ён жа робіць усё так, як табе падабаецца. Проста ён робіць тое, што падабаецца не табе, а суседу.

Лукашэнка — мон амур у трэці раз. Але Лукашэнка мон амур як функцыя, а не як вектар.

Для сябе я сфармуляваў сутнасць прэтэнзіі ў наступным.

Лукашэнка кепскі не таму, што дыктатар, а таму, што, кажучы паліткарэктна, мае праблемы з духоўнай акцэнтуацыяй. Не адрозніваe кепскае ад добрага і прыгожае ад непрыгожага.

Ён, я мяркую, не глядзіць аніякага кіно, акрамя дарослага. Не чытае кніг. Ён, напэўна, адкажа, што часу няма. Ён не слухае музыкі ў адрыве ад гендарнай прыкметы выканаўцы.

З забаваў ён выбірае хакей, у якім ёсць свае, а ёсць чужыя, і толькі адсюль і толькі так утвараюцца кепскія і добрыя. Ёсць канкрэтная мэта і канкрэтны час.

Дыктатар, калі ён дыктатар уцямны, мяркуе, што рана ці позна ягоная тэмпература наблізіцца да пакаёвай і да гэтага часу трэба шмат чаго зрабіць і шмат чаго растлумачыць таму селектарату, які будзе ўплываць на развіццё краіны пасля. Лукашэнка нічога не тлумачыць. Ён проста абяцае. Напрыклад, 500 баксаў. Ён не акрэслівае ніякіх перспектыў акрамя 500 баксаў.

Што рабіць беларусу, які дачакаўся 500? Пакуль няясна.

Рэакцыя ў Лукашэнкі імгненная. Гэта добра. Але 9 млн насельніцтва вымушаны рэагаваць не на тыя выклікі, якія кідае ім глабальны (даруйце за штамп) свет, а на тыя непрыемнасці, якія паўстаюць персанальна перад Аляксандрам Рыгоравічам.

> **Ён ім даваў тое, што яны прасілі, але яны прасілі не тое і вінаватыя самі »**

Лукашэнка, можа быць, і хацеў бы стаць нашым Лі Куан Ю. Але ён не можа быць добрым дыктатарам.

СССР мог праіснаваць пасля смерці Сталіна яшчэ 40 год, паразітуючы на ідэі будавання камунізму. Бо здавалася, нібыта ёсць нешта большае за Сталіна. Аляксандр жа Рыгоравіч не мае амбіцыяў ані «сэрца мільёнаў падслухаць біццэ», ані жыць у сэрцах пасмяротна. Яму, як мне падаецца, больш даспадобы маркіза Пампадур з яе «пасля нас хоць патоп». І тут пачынаецца Лукашэнка мон амур — 4, бо ягоная безыдэйнасць выратавальная. Бо гэта той механізм самазнішчэння, які ён падшмароўвае штодзень. І калі Лукашэнка як функцыя выканае сваю справу і беларусы зразумеюць, што ён ім даваў тое, што яны прасілі, але яны прасілі не тое і вінаватыя самі, — вось у гэты момант наш брандмайстар, як і ў кнізе Брэдберы, знікне, і больш ніхто пра яго не згадае.

# «Поўны разброд і хістанне!»

**Між урадам і Адміністрацыяй прэзідэнта зноў узніклі супярэчнасці. Лукашэнка ж палохае голадам і прарочыць «цяжкі год».**

У афіцыйнай справаздачы пра даклад прэм'ер-міністра кіраўніку дзяржавы прагучала рэдкае для гэтага жанру слова «апанент».

«Для таго каб пачуць апаніруючы ўраду пункт гледжання, Аляксандр Лукашэнка запрасіў кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Кабякова і памочніка кіраўніка дзяржавы Пятра Пракаповіча».

У часе фінансавага крызісу 2011 года прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч рэзка і нават публічна спрачаўся з тагачасным памочнікам кіраўніка дзяржавы Сяргеем Ткачовым. Як выглядае, спрэчка двух органаў улады не сціхла і гаворка ідзе пра тое самае.

Прэзідэнтура выступае за нарошчванне тэмпаў росту ВУП. А гэтага можна дабіцца толькі

## Мясніковічу ёсць чаго баяцца: у выпадку росту цэнаў вінаватым будзе ён

аб'ёмамі ўнутраных інвестыцый, што прыводзіць да росту інфляцыі. Урад жа выступае за сціплы рост і неінфляцыйную палітыку.

Мясніковічу ёсць чаго баяцца: у выпадку росту цэнаў вінаватым будзе ён. Як паведамляецца, прэм'ер прыехаў на даклад у суправаджэнні міністра эканомікі Мікалая Снапкова і міністра фінансаў Андрэя Харкаўца.

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад іх выканання ўсіх паказчыкаў 2012 года, асабліва па ВУП. Але ж гэта немагчыма, бо тэмпы росту адсталі ад запланаваных у тры разы. Таму цяжка зразумець, што можа даць такое патрабаванне, калі да канца года застаўся месяц з хвосцікам.

Аляксандр Лукашэнка гарачыўся: «Учора мы такую размову пачалі з міністрам эканомікі [Снапковым] і памочнікам па эканоміцы [Пракаповічам]. Аказваецца, поўны разброд і хістанне!» Гаварыў пра сябе ў трэцяй асобе: «Зноў падкрытыкоўваюць, што мы не выконваем уласныя абавязацельствы, не выконваем рашэнні прэзідэнта, якія зацверджаны з вашай падачы па бягучым годзе».

І даваў макраэканамічныя ўказанні: «Зразумела, што наша эканоміка такая, што калі экспарт ці ВУП больш трэба, то і імпарт будзе вырастаць. Ну дык у нас ёсць дабаўленая вартасць, давайце будзем вырабляць тавары з большым прыбыткам. Не страшна, што імпарт узрасце, галоўнае, каб экспарт адпаведна потым вырас, каб мы не толькі кампенсавалі затраты па імпарце, але і атрымалі добрую дабаўленую вартасць».

Аляксандр Лукашэнка палохаў: «Натуральна, будзе вельмі цяжкі будучы год». Аж да голаду: «І самае галоўнае — у нас павінна быць добрая закладка на зіму прадуктаў, каб людзі не пакутавалі. Бо вакол [у краінах вакол Беларусі] калі не галадуха, то праблемы з харчаваннем будуць», — дадаў ён. «У гэтым годзе вакол праблемы: у Еўропе, Украіне, Расіі...»

Як добра вядома жыхарам Брэста і Гродна, мяса ў Беларусі стала ўжо ўдвая даражэйшым, чым у галадаючай Польшчы. Мусіць, прычына ў крайне нізкіх тэмпах



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Тур: Дружышча, мы зноў жывём не па сродках?**

росту польскага ВУП і збядненні насельніцтва Еўрасаюза.

Пасля доўгай размовы пра недапушчальнасць жулікаў у ЖКГ даклад плаўна перайшоў да перспектываў продажу калійных угнаенняў у Бангладэш — там у выніку нядаўняга візіту Мясніковіча і дзяржава, і прыватнікі абяцаюць масава закупляць наш калій. Якое шчасце, што галадуха абмяжоўваецца Еўропай і Расіяй, а краіны Азіі дэманструюць плацежаздольны попыт.

Нарэшце, дайшлі да галоўнага. Паводле словаў прэм'ер-міністра, на цяпер праблемным пытаннем застаецца баланс па нафце на 2013 год. «У мяне запланавана тэлефонная размова з Дзмітрыем Мядзведзевым. Пакуль тыя аб'ёмы нафты, якія прагаворваюцца на ўзроўні намесніка старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі, нас не задавальняюць, і ёсць важкія аргументы чаму. Нават з улікам таго, што мы дамовіліся, што каля 3 млн т нафтапрадуктаў у наступным годзе мы будзем перадаваць на рынкавых умовах для Расійскай Федэрацыі», — сказаў Міхаіл Мясніковіч.

Гэты выраз «перадаваць на рынкавых умовах» выклікае пэўную трывогу.

Прэм'ер-міністр паспяшаўся запэўніць, што «адносна паліўна-энергетычнага комплексу ўсе пытанні па працы ў чацвёртым квартале ўрэгуляваны, застаюцца пытанні яшчэ некаторага дабору па 2013 годзе». Беларусь разлічвае на пастаўкі 23 млн т нафты ў 2013 годзе, у гэтым годзе аб'ём пастаўленай нафты складзе 21,5 млн т. «Прэзідэнту таксама далажана аб выкананні ўсіх заданняў па закладцы стабілізацыйных фондаў», — гаворыцца ў паведамленні.

Апошні сказ афіцыйнай справаздачы гучыць так: «Прэм'ер-міністр запэўніў, што ўсе даручэнні Прэзідэнта будуць, безумоўна, выкананы».

**Мікола Бугай**

### Фотафакт

Камітэт ААН па правах чалавека знайшоў парушэнні ў разглядзе справы Уладзіслава Кавалёва, асуджанага і расстралянага за тэракт у мінскім метро 11 красавіка 2011.

Камітэт лічыць, што да Кавалёва прымяняўся фізічны і псіхалагічны ціск з мэтай прымусіць яго абылгаць сябе. Тое, што Кавалёў у часе суда ўвесь час знаходзіўся за кратамі, з'яўляўся перад удзельнікамі працэсу ў кайданках, а таксама матэрыялы дзяржаўных СМІ, якія яшчэ да вынясення прысуду назвалі яго тэрарыстам, было расцэнена сябрамі Камітэта як парушэнне прэзумпцыі невінаватасці. Фактычна, адзначаецца ў рашэнні, Кавалёву яшчэ да завяршэння суда стварылі адпаведны вобраз.

Варта адзначыць, што Беларусь не абавязаная выконваць рашэнні Камітэта. Больш за тое, афіцыйны Мінск адмовіўся прызнаваць адказ на гэтую скаргу яшчэ на стадыі яе рэгістрацыі.

**Сямён Печанко**



СЯМЁН ПЕЧАНКО



## Саннікаў: У турме мяне спрабавалі штурхнуць на самагубства

Брытанская газета Guardian і тэлебачанне Бі-Бі-Сі падрыхтавалі вялікія матэрыялы пра былога кандыдата ў прэзідэнты, экс-палітвязня Андрэя Саннікава, які атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі. У інтэрв'ю ён расказаў, што ў турме яго спрабавалі штурхнуць на самагубства: яго пакінулі ў адзіночнай камеры разам з лязом брытвы і кавалкам вяроўкі.

### Сцісла

**Калякін не падпісаў Мемарандум БНР**

Бюро ЦК «Справядлівага свету» адмовілася падпісваць Мемарандум аб абароне незалежнасці, прапанаваны Радай БНР. «Мемарандум носіць антырасійскі характар, што непрымальна. «Справядлівы свет» выступае за развіццё адносін з Расіяй, за інтэграцыю паміж краінамі», — патлумачыў кіраўнік партыі Сяргей Калякін. Партыя «не прызнае Раду БНР як сімвал ці гарант нашай незалежнасці».

**У Празе створаць «альтэрнатыўнае пасольства Беларусі»**

Шэсць беларускіх арганізацыяў Чэхіі стварылі Беларускі дом у Празе. Ён стане яшчэ адным цэнтрам беларускай эміграцыі. Падобныя арганізацыі ўжо існуюць у Вільні, Варшаве ды Кіеве.

**Беларусы не могуць трапіць у Палесціну без дазволу Ізраіля**

Каб наведаць Палесціну, спачатку трэба звярнуцца ў палесцінскую амбасаду ў Мінску. Але дазвол на паездку даюць толькі ізраільскія ўлады. У Расіі і Украіны такой праблемы няма: краіны маюць з Ізраілем пагадненні аб бязвізавым праездзе.

**ЗП**

# Ліст-споведзь былой жонкі афіцэра

Мы даём гэтае пісьмо **без купюр**. Толькі што змянілі імёны і схавалі нумары вайсковых часцей.




Піша вам былая жонка афіцэра. Хачу расказаць гісторыю свайго жыцця, расказаць пра тое, як робяць афіцэры Унутраных войскаў, абаронцы. Можа, хтосьці пачытае і здабудзе ўрокі з гэтага ліста, каб у іх жыцці не адбылося такога.

Я, Святлана Адамаўна Краснова *(імя змененае, сапраўднае імя ёсць у Рэдакцыі)*, родам не з Мінска, з Брэсцкай вобл. Пазнаёмілася з мужам, калі вучылася ва ўніверсітэце ў Мінску, ён вайсковец ***, в/ч *** *(імя і нумар у Рэдакцыі)*. Калі мы пазнаёміліся, я ведала, што ён ужо быў жанаты і я буду другой жонкай, дзяцей у іх не было, і я думала, што гэта прычына іх разводу, але выявілася, што гэта не так.

Мы збіраліся ажаніцца, калі ў яго на працы адбыўся выпадак: ён збіў салдата, але тады я яшчэ не ведала, што гэта другі раз, не думала і пра тое, як гэта адаб'ецца на мне. Як я даведалася пасля жыцця з ім, яшчэ лейтэнантам у яго быў такі выпадак, але тады, каб не было агалоскі, справу «замялі» (у 2002 г.), калі ж гэта здарылася ў званні капітана, завялі крымінальную справу, яго адхілілі ад службы на 2 месяцы, прапісалі курс супакаяльнага. Але зноў жа, каб не было «агалоскі», салдату сфабрыкавалі апляву-ху, хоць пракурор прасіў 4 гады турмы. Яму прызначылі 2-гадовы ўмоўны тэрмін, вылічылі з зарплаты, адхілілі ад камандавання салдатамі, перавялі на іншую працу (вышэйшую пасаду) і адтэрмінавалі званне «маёр». Праз год з непагашаным тэрмінам крымінальнай адказнасці пераводзяць намеснікам начальніка вучэбнага корпуса ў званні капітана на пасаду падпалкоўніка, напэўна, за «добрыя паводзіны» або за «добрыя плечы».

Мы ажаніліся, нарадзілася дачка, жылі ў кватэры яго маці ў Мінску. Калі дачцэ было паўгода, ён упершыню не прыйшоў дадому начаваць і я была з жудасным атручваннем адна дома, з немаўлём. Было вельмі дрэнна і цяжка, тады я ўпершыню задумалася пра развод. Але ён потым папрасіў прабачэння, і я даравала, а дарма: ніколі не трэба спадзявацца, што чалавек адумаецца.

Пачаліся скандалы, зноў пачаў гуляць і не прыходзіў дадому нанач. Калі дачцэ быў год, я даведалася, што ў яго ёсць жанчына, ды ён і сам любіў расказаць пра свае «подзвігі». Я сабрала рэчы, тое, што мне дазволілі ўзяць з сабой, толькі рэчы дачкі і свае. З'ехала да бацькоў. Былы муж жыў і не ўспамінаў пра нас, але потым неяк дзіўна пачаў прасіцца: нашай сям'і давалі службовую кватэру, і, як выявілася, яго мэтай было атрымаць яе, а потым як «адпрацаваны матэрыял» выкінуць нас на вуліцу. Як пасля я даведалася, ён падпісваў за мяне дакументы. Дзеля дачкі я памірылася, даравала, і гэта было самай вялікай маёй памылкай.

У снежні 2009 мы заехалі ў кватэру на праспекце Незалежнасці. Але ён не змяніўся, зноў былі яго гулянкі, скандалы на вачах дачкі. І калі ў лютым 2010 ён прыйшоў вечарам п'яны, я забрала ключы і дакументы ад машыны. Раніцай ён кінуўся мяне душыць, калі мы з дачкой спалі, і толькі крык дачкі яго спыніў. Я даведалася, што ён падымаў руку і на першую жонку, душыў яе. Я сказала, што калі гэта яшчэ раз паўторыцца, ён можа яшчэ і сесці ў турму, а ён адказаў, што я не пасаджу яго, таму што ён мяне зарэжа.

Я звярнулася да камандзіра часці. З ім правялі гутарку, трохі супакоілі яго «запал», але ненадоўга. Аднойчы, калі ў мяне была мая мама (чалавек сталага веку), а мяне не было дома, былы муж накінуўся на яе, прыціснуў да сцяны і нецэнзурна лаяўся, абзываў яе. І толькі спалох і плач дзіцяці спыніў яго. Ён папросту мог у прысутнасці маёй сяброўкі з дзецьмі абзываць мяне, лаяцца матам, клясці, паводзіць сябе неадэкватна. Да разводу, пакуль я адсутнічала дома, ён вывозіў бытавую тэхніку, а потым казаў: «Ты ж не працавала, і твайго нічога няма» (я знаходзілася ў адпачынку па доглядзе дзіцяці да 3-х гадоў).

У ліпені 2010 мы развяліся, а ў верасні ён хацеў прывесці жыць каханку з яе дачкой. Пачаў дзяліць пакоі, вешалкі, забіраць усё, адбыўся скандал, ён ударыў мяне ў прысутнасці дачкі, я выклікала міліцыю. Міліцыя прыехала, склала пратакол. Ужо другі раз я звярнулася пісьмова да камандзіра часці. З ім зноў правялі гутарку пра паводзіны вайскоўца ў побыце, і былы муж выехаў з кватэры.

З'язджаючы, ён забраў усё, вывез нават смеццевае вядро, венік і г.д., сказаў, што дзіцяці нічога не трэба (не трэба на чым спаць, на чым сядзець). З часам з дапамогай бацькоў я ўсё купіла. Але ён на гэтым не спыніўся, і ў нашым жыцці пачаўся кашмар. Былы муж пагражаў, што, калі я не адмоўлюся ад аліментаў, ён заедзе і нас выжыве. Калі я не паддалася, ён напісаў рапарт на здачу кватэры і ў снежні 2010 г. прыходзіў да нас разам з прадстаўнікамі вайсковых часцей — высяляць. Мне з двухгадовай дачкой не было куды ісці.

Я звярнулася па дапамогу да камандуючага Унутраных войскаў, на прыём мяне не запісалі, а пісьмова адказалі, што нічым дапамагчы не могуць. Я прасіла прыняць мяне на працу (службу), каб была магчымасць пражываць у кватэры, даць нам інтэрнат або падзяліць чаргу на будаўніцтва кватэры, але дапамогі не атрымала. Тады я звярнулася да міністра ўнутраных спраў, і гэта быў адзіны чалавек, хто хаця б прыняў мяне, выслухаў, паабяцаўшы дапамагчы з працаўладкаваннем, дзякуй яму за гэта.

Мяне часова пакінулі ў спакоі, я чакала, што прапануюць працу ва Унутраных войсках, каб мы з дачкой маглі разлічваць хоць на нейкае жыллё. Я выйшла на працу — галоўным бухгалтарам у прыватную фірму. Трохі супакоіўшыся, працавала, выхоўвала дачку, хоць гэта і вельмі цяжка, асабліва калі дзіця часта хварэе: бальнічныя на любой працы не ўхваляюць, а я была адна ў гэтым горадзе. Дзякуй Богу, мая мама змагла прыехаць і дапамагчы мне.

Пэўны час былы муж прыязджаў вельмі рэдка, раз на 2—3 месяцы, хоць я яму ніколі не забараняла бачыцца з дачкой, але яна яму ўжо не была патрэбная. Адразу пасля разводу ён ажаніўся трэці раз і ўдачарыў дачку новай жонкі, а нашая дачка стала «былой». Калі ў снежні 2011 пачалі рэгістраваць у кватэру, ён зарэгістраваўся і зарэгістраваў прыёмную дачку, а нашу адмовіўся (мы зарэгістраваныя ў в/ч).

І зноў пачаўся кашмар. Былы муж сказаў, што збіраецца заязджаць, а нас выселіць, выжыць з дачкой на вуліцу. Я звярталася і ў Дэпартамент фінансаў і тылу, і да камандуючага (мяне зноў не захацелі запісаць на прыём), стукалася ва ўсе дзверы, але так ніхто і не адчыніў. Напэўна, лягчэй выкінуць на вуліцу, чым дапамагчы.

У маі 2012 былы муж і яго маці падалі ў суд з позвай аб удзеле ў выхаванні дзіцяці. Для мяне гэта быў шок, бо я ніколі яму ў гэтым не перашкаджала, апошні раз перад гэтым ён быў 1 сакавіка, а бабуля за два гады пасля разводу — толькі аднойчы. Гэтым ён хацеў зноў патрапаць мне нервы з судамі і «падаслаў» да мяне ўчастковага, каб нас з дачкой выселіць. Суд прызначыў наведванне двойчы на тыдзень без прысутнасці яго сям'і, бо дачцэ толькі 4 гады, яна яго дрэнна ведае, праблемы з сэрцам і не сфармаваная псіхіка, невядома, як яна можа адрэагаваць на яго новую сям'ю. За гэты час ні ён, ні бабуля так ні разу і не наведалі дзіця.

У жніўні 2012 ён зноў падаў на мяне ў суд — на высяленне мяне і нашай малалетняй дачкі, без прадастаўлення жылля. Быў суд, нас не выселілі, але тады былы муж, што не жыў 2 гады ў гэтай кватэры, звярнуўся з правам уезду з трэцяй сям'ёй. У мяне здарылася яшчэ адно гора: дачцэ выдалілі апендыцыт, пакуль яна знаходзілася ў гасцях у маіх бацькоў, мне трэба было тэрмінова выехаць у іншы горад, быў вечар, і транспарт ужо не хадзіў. Суседка патэлефанавала майму былому мужу з просьбай адвезці. Мы паехалі ў бальніцу, паехала яго трэцяя жонка. І пакуль я ўгаворвала доктара дазволіць мне застацца з дачкой, новая жонка зладзіла мне скандал: на якой падставе я яму патэлефанавала, каб ён адвёз мяне ў бальніцу да нашай дачкі. Потым доктар зрабіла мне заўвагу. А наш тата сказаў, што гэта толькі маё гора, і я зразумела, што ён выкрасліў дачку са свайго жыцця і яна яму не патрэбная. Больш ён не цікавіўся здароўем дзіцяці, а толькі слаў смс з пытаннем, калі перавозіць рэчы.

Я зноў звярнулася пісьмова з просьбай запісаць мяне на прыём да камандуючага і пытаннем, чаму ўшчамляюцца правы майго дзіцяці, чаму дамова складалася на нас траіх (былы муж, я, наша дачка), а яе нават не хочуць рэгістраваць у гэтай кватэры, хоць усе камунальныя плацяжы аплачваю я за пяць чалавек (я з дачкой, былы муж і двое дзяцей). І нарэшце праз паўтара года я трапіла да камандуючага на прыём. Я спадзявалася, што ён мне хоць чымсьці дапаможа, але ён сказаў: мы не рэгіструем, а рэгіструе наймальнік, што да працаўладкавання, то мы не біржа працы, а наконт высялення і засялення вырашыць суд. Нават копіі дакументаў, якія мне патрэбныя былі, мне не далі, ведаючы напэўна, што там мой подпіс падроблены. Я звярнулася да камандзіра часці, каб пабачыць, хто падрабіў мой подпіс. За два месяцы я так і не атрымала адказ. Тады я зноў звярнулася ў Галоўнае ўпраўленне ўнутраных войскаў з той жа просьбай, але адказ атрымала зусім іншы: такога дакумента няма, хоць усе жонкі нашага дома яго падпісвалі.

Быў суд і вынес рашэнне аб усяленні яго, яго дачкі і сына: ён жа наймальнік, я гэта разумею, але я прасіла Унутраныя войскі, каб яны хоць неяк паўплывалі на свайго «добрага афіцэра», каб у нас не было зноў скандалаў на вачах у дзіцяці, каб ён зноў не падняў на мяне руку. Але мне адказалі, што такой гарантыі мне даць не могуць, і я павінна зноў звяртацца па дапамогу ў міліцыю, здымаць пабоі, і тады яны будуць разбірацца. Так мне трэба было жыць і баяцца, каб ён мне чаго-небудзь не зрабіў. Але ж у яго ёсць жыллё, ён пражывае ў двухпакаёвай кватэры са сваёй маці. У нашу кватэру я не магла яго не пусціць, ён жа пастаянна мне казаў, што ён — наймальнік, а я з дачкой — ніхто, у яго ёсць ключы ад кватэры, з паштовай скрыні знікае карэспандэнцыя на маё імя. Няўжо яму так дрэнна там жылося, што ён захацеў жыць у адной кватэры з дзвюма жонкамі і трыма дзецьмі?

21 лістапада 2012 ён усяліўся з трэцяй жонкай і двума дзецьмі, хоць суд вынес рашэнне аб засяленні толькі яго і дзяцей. І пачаліся скандалы, сваркі, пагрозы. Не паглядзелі яны і на слёзы дачкі, калі ён выклікаў міліцыю на маю маці (пажылую жанчыну з хворым сэрцам і бранхіяльнай астмай, паднялі нас з ложка, пабудзілі дзіця). У 24.00 яе забралі начаваць у міліцыю, бо з'ехаць яна ўжо ні на чым не магла. Ёй загадалі вызваліць кватэру, хоць ніякіх сварак не адбывалася, а яго трэцюю жонку пакінулі, хоць суд яе не ўсяліў, але ў міліцыі сказалі, што яна мае права пражываць. Не пашкадаваў дачку, не паглядзеў на яе крыкі і плач, калі міліцыя забрала яе бабулю як злачынцу. А яна прыехала з Брэсцкай вобласці дапамагчы мне з хворым дзіцем, ды і за маю бяспеку баіцца, яны ж удваіх, а я адна. Ён проста заганяе мяне ў кут і выжывае нас з дачкой. Выязджаючы, ён забраў усе свае рэчы, а цяпер хоча прадаць маю пральную машыну і іншае. Я паставіла ў пакой замок, бо баюся з ім знаходзіцца ў адной кватэры. Я ведаю, што жыць спакойна тут ён нам не дасць.

Пішу гэты ліст, а на вочы наварочваюцца слёзы. Не ведаю, ці будзе ён апублікаваны, але гэта крык маёй душы. Я як жанчына, маці звяртаюся з просьбай аб дапамозе, бо ведаю, што больш ніхто за нас не заступіцца, не дапаможа.

Унутраныя войскі не захацелі нам дапамагчы, і няма абароны ў іх ад «прыстойнага афіцэра», раз яны закрывалі справы аб збіцці салдат, аб маіх просьбах абараніць нас. Але я думаю, што ні адна маці збітага салдата не забылася. Не забудзе мая маці, не забудзе мая дачка, якая бачыла толькі скандалы і слёзы маці, не забуду і я ўвесь гэты жах. Гэта ўсё адабраныя нервы і здароўе. Мяне ўвесь час запалохваюць, высяляюць, выжываюць, пагражаюць, выклікаюць на суды, а я адна выхоўваю дачку.

Шкада, што ва Узброеных сілах афіцэра не навучылі паводзіць сябе з людзьмі сталага веку, з жанчынамі, салдатамі ці хаця б несці адказнасць перад сваімі дзецьмі. Я ведаю, што, заехаўшы ў гэтую кватэру, ён зробіць наша жыццё невыносным, а ў мяне ўжо няма сіл змагацца, ды і стрэс дачцэ. Але я не ведаю, куды нам выехаць. Кватэру давалі сям'і, а потым аказалася, што можна выкінуць сваё дзіця на вуліцу як «незапатрабаваны матэрыял».

Мне застаецца толькі спадзявацца, што жыццё расставіць калі-небудзь усё па сваіх месцах і ён успомніць і падумае, колькі болю і гора прынёс іншым людзям.

**З павагай,**
**Краснова С.А.**

*Вось так бывае ў жыцці. І, як пяецца ў той песні: «А хто дзетак мае, няхай навучае».*

# «У Беларусі заробіш 4 мільёны, а ў Расіі — усе 20»

Будаўнік з Гродзеншчыны расказаў пра заробкі і ўмовы працы ў Сібіры.

Аляксандр жыве ў невялікім гарадку на Гродзеншчыне. Ён — прафесійны будаўнік, апошнія гады працу ў Беларусі сумяшчае з вахтамі ў Расіі. Працаваў і Пецярбургу, пад Петразаводскам, апошняя камандзіроўка закінула яго у Сібір. Кажа, што яго фірма дарабляе апошнія аб'екты на радзіме і збіраецца пераехаць у Расію. Туды ж бягуць многія супрацоўнікі будаўнічага гіганта «Мапід».

### Кожны чацвёрты — беларус

Нядаўна Аляксандр вярнуўся з двухмесячнай вахты з Сібіры. Працаваў на нафтавым радовішчы прарабам, ягоная брыгада выконвала бетонныя работы. Усяго на аб'екце працавала каля трохсот будаўнікоў, з іх каля 80 — беларусы. Ад большасці будаўнікоў такая праца не патрабуе ні спецыяльнай адукацыі, ні кваліфікацыі. Таму чалавек з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй або ветэрынар каля бетонамяшалкі тут не дзіва.

Людзей сюды вабяць заробкі. «У маім раёне шараговы будаўнік мае 3—4 мільёны рублёў. Раённае кіраўніцтва ездзіць па будоўлях і злуецца, што пасля пятай вечара на аб'ектах нікога няма. А хто ж будзе за гэтыя грошы перапрацоўваць? У Расіі можна зарабляць па 20 мільёнаў за месяц і болей».

### Трохразовае харчаванне і ніякага алкаголю

На мінулай Аляксандравай вахце пад Петразаводскам заробкі залежалі ад аб'ёмаў зробленага, расказвае будаўнік. «Са мной працавалі хлопцы з Магілёва, гомельскія. Талковыя мужыкі. Многія зараблялі па 2500—3000 даляраў».

У Карэліі будаўнікоў з Беларусі сялілі ў здымныя кватэры з усім неабходным або ў камфортныя інтэрнаты. Але гатаваць даводзілася самім. Харчаванне і праезд аплачвалі самастойна са свайго заробку.

А вось цяпер у Сібіры жытло паскуднае, затое выдатна кормяць. «Штодзень трохразовае харчаванне, садавіна, гародніна. Штодзень даюць па 50 рублёў на цыгарэты. Я не палю, але грошы ўсё адно атрымліваў», — смяецца Аляксандр. Харчаванне для будаўнікоў аплачвае кампанія, як і праезд да месца працы і назад.

У адзінай крамы пасёлка спіртнога не прадаюць, нават піва. Да бліжэйшага горада з крамамі — добрыя дзве сотні кіламетраў. Аднак, калі б алкаголь і быў даступны, большасць тры разы падумала б, ці варта рызыкаваць добрым заробкам.

Затое жывуць будаўнікі ў вагончыках па 6 чалавек. «Людзі ўсе розныя. Адзін хоча спаць, а другі да 2-й ночы кіно глядзець. Аднаму горача — акно адчыніў, а другі сварыцца, што змерз. Хтосьці любіць парадак, чысціню, а іншы не любіць нават за сабой прыбіраць».

У вагончыках няма ні тэлевізара, ні радыё. Праўда, амаль у кожнага з сабой ноўтбук.

### «Чытаў успаміны Грахоўскага»

Працавалі на радовішчы даводзіцца без выхадных, па 12 гадзін у суткі — ад 8-й раніцы да 8-й вечара, у брудзе, у любое надвор'е. «Працавалі і ў мароз 25 градусаў», — згадвае Аляксандр.

На аб'екце панавала жорсткая дысцыпліна, заснаваная на сістэме штрафаў. Спазніўся на працу — штраф, пайшоў раней — штраф. Штрафуюць за недаробленую працу, за нізкую якасць. На тэрыторыі аб'екта забаронена фатаграфаваць. Зрабіў кадр на памяць, а нехта з кіраўнікоў пабачыў — ізноў штраф. Памер грашовага пакарання сягае ад 1000 да 10000 расійскіх рублёў (тысяча расійскіх рублёў — прыкладна трыста тысяч беларускімі).

«Многія клянуцца, што больш ні за што не паедуць сюды працаваць. Але па дарозе назад большасць супакойваецца і вяртаецца».

Цяжка толькі ад адчування адлегласці да роднага дому. Аляксандр узяў з сабой успаміны Сяргея Грахоўскага. «Ён недзе тут недалёка адбываў пакаранне. Перачытваў яго кнігу і думаў: калі чалавек такое пераадольваў гадамі, то чаму я не вытрымаю два месяцы?»

Цяпер Аляксандр адпачывае, але ўжо падумвае пра новую камандзіроўку. «Пакуль у нас будзе такая разбежка ў заробках, людзі будуць ехаць хоць у Сібір, хоць у пекла», — упэўнены ён.

**Сямён Печанко**

**Працаваць даводзіцца па 12 гадзін без выхадных у брудзе, у любое надвор'е.**



У лістападзе Мастоўскі райвыканкам (Гродзенская вобласць) прапануе вакансіі муляра, тынкоўшчыка з заробкам да 4 млн рублёў. Ветдоктару прапануюць 2,5 млн. У Мінску мулярам і тынкоўшчыкам прапануюць заробкі ад 8 млн.

# Будаўніцтва «Бульбаш-хола» ў Курапатах прыпынілі

Але гэта яшчэ не канчатковае рашэнне.

Ёсць надзея, што ў Курапатах рэстарана з саўнай не будзе. Прынамсі, пасля шматлікіх пратэстаў у прэсе ў гэтым пытанні з'явіліся зрухі. Будпляцоўку наведала камісія з Міністэрства культуры і Генпракуратуры. Правяраючыя знайшлі зачэпку: работы часткова вяліся ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці без дазволу Мінкульта. І цяпер у забудоўшчыка правяраюць дакументы. Рух на будпляцоўцы спыніўся, будоўля застыла, уласнікі комплексу хаваюцца.

Але ці значыць гэта, што будаўніцтва не адновіцца? Пакуль усё няясна.

Начальнік Упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкульта Ігар Чарняўскі адзначыў, што пра знос пабудаванай часткі гаворкі не вядзецца. Магчымае нават аднаўленне работаў, калі праектная дакументацыя будзе адпавядаць прававым нормам. Па словах чыноўніка, «першапачаткова ўзгаднялася будаўніцтва каля Курапатаў аб'екта прыдарожнага сэрвісу». А пасля забудоўшчыкі «перакваліфікавалі» яго ў забаўляльны комплекс.

Пра будаўніцтва «Бульбаш-хола» каля Курапатаў стала вядома ў кастрычніку. Пасля пратэстаў грамадскасці з інтэрнэту



і вулічных бігбордаў знікла рэклама рэстаранна-забаўляльнага комплексу, а цяпер вось пачаліся праверкі.

Кіраўніцтва кампаніі «Нашая рэстаранная група», якому належыць ідэя «Бульбаш-хола», па-ранейшаму адмоўчваецца. «Ні з кім нельга пагаварыць. Усе з'ехалі ў камандзіроўкі, — заявіла супрацоўніца аддзела кадраў кампаніі. — І тут працую тыдзень і не валодаю інфармацыяй, як і вы. Ведаю толькі тое, пра што чытала ў прэсе».

У «камандзіроўках» начальства было і месяц таму. Так і хочацца запытацца: што за сакрэтніцтва такое? Падобна, адказныя асобы проста пазбягаюць каментароў з нагоды будоўлі.

**Сяргей Макарэвіч**

Петыцыю супраць будаўніцтва «Бульбаш-хола» ў інтэрнэце падпісалі 4030 чалавек.

# Што рабіць, калі вас аблічылі ў краме

Заўчора мяне аблічылі ў супермаркеце: выбілі мне ў чэку перац на суму 35 550 руб., які я не набывала. Памылку я заўважыла толькі на наступны дзень. Праверыць чэк на касе адразу пасля аплаты, як звычайна, не падумала.

З няпэўнай надзеяй даказаць сваю рацыю — а чаму мне павінны верыць — рушыла ў краму. Адміністратарка паведаміла, што няма той прадавачкі, якая мяне разлічвала. А вернецца яна толькі праз два дні. Так што «мая хата з краю, нічога я не знаю», кацiцеся адсюль са сваім чэкам. Я папрасіла кнігу скаргаў. Пасля гэтага жанчына палагоднела і пачала разбірацца ў чэку. Мне пашанцавала: кілаграм перцу каштаваў у краме 35 550 рублёў, і ў чэку мне выбілі роўна столькі ж. Маларэальна набыць перац такой эталоннай вагі. Высветлілася, што мне яго выбілі замест багета за 4 600 рублёў. Памылка сістэмы, якую прадавачка не заўважыла. Розніцу ў 30 тысяч адразу ж вярнулі. А я ў сваю чаргу не стала настойваць на запісе ў кнізе скаргаў.

**Выснова №1:** заўсёды правярайце чэк пасля аплаты!

**Выснова №2:** у выпадках, калі адказныя асобы адмаўляюцца разбірацца, спакойна, але настойліва патрабуйце кнігу скаргаў. Часам дапамагае.

**Аксана Рудовіч**

**Што рабіць, калі не ўдалося разабрацца на месцы?**

Юрыст Беларускага таварыства абароны спажыўцоў прапануе радыкальныя меры. Калі ў чэку выбілі не тое, што вы купілі, можаце пісаць заяву ў міліцыю. Бо, фактычна, вас абрабавалі.

# «Ехалі неадэкватна». Вынік — смерць

Юнакі на «Акуры» ўрэзаліся ў ліхтарню.

Яны цэлы вечар ганялі па Мінску. Урэшце а гадзіне ночы 26 лістапада «Акура» на вялікай хуткасці ўрэзалася ў мачту асвятлення на скрыжаванні вуліц Адзінцова і Цімашэнкі. У аўто знаходзіліся хлопцы 1990 і 1992 гадоў нараджэння. Пасажыр загінуў, кіроўца з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай дастаўлены ў Бальніцу хуткай дапамогі. Стан яго крытычны. Як можна бачыць на фота, машыну аж размазала аб ліхтарню.

ДАІ мяркуе, што кіроўца быў нападпітку. На машыне не было нумароў. Па інфармацыі ДАІ, у кіроўцы «Акуры» летась ужо забіралі правы за кіраванне аўто нецвярозым. Тады ён таксама справакаваў аварыю, у выніку якой пацярпеў чалавек. Але цялесныя пашкоджанні былі ацэненыя як менш цяжкія. У дачыненні маладога чалавека будзе заведзеная крымінальная справа.

Праўда, адзін са знаёмых хлопцаў сумняваецца ў афіцыйнай версіі. «Дзімон не мог быць п'яным, і, хутчэй за ўсё, ён быў за рулём. Ён у нас у кампаніі быў «цвярозым кіроўцам», ён проста не мог нападпітку сесці за руль — надта даражыў правамі. Сяргей, які 1992-га года, мог быць п'яным. Але самі падумайце, як бы ён выжыў на месцы кіроўцы...»

Як высветлілася, гэтую «Акуру» бачылі ў той вечар, за некалькі гадзін да аварыі, некалькі кіроўцаў. Аднаго юнакі падрэзалі і «паляцелі наперад». «Асабіста бачыў, як кіроўца пацягваў піўко за рулём. Хацеў у 102 тэлефанаваць, але нумара задняга не было на аўто», — напісаў відавочца на форуме. «Далёталіся! Бачыў іх на Маякоўскага, ехалі неадэкватна: то стартавалі, то раўняліся з іншымі машынамі і зноў рэзка стартавалі», — паведаміў іншы.

«Акура» толькі нядаўна пабывала ў рамонце — правы бок яшчэ нават не пафарбавалі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Acura TL**

гэта не танны аўтамабіль. Такія выпрабляе паўночнаамерыканскае аддзяленне канцэрна Honda, якое спецыялізуецца на спартовых і прэстыжных аўто. Нават патрыманая мадэль, якую разбілі ў Мінску, на беларускім рынку каштуе мінімум 17 тысяч даляраў. TL з'яўляецца найбольш прадаванай мадэллю Acura.

Аб'ём рухавіка — 3,2 м³, магутнасць 225—270 — к. с., расход паліва — каля 10 л на 100 км, вага — 1,5 т. Да 100 км/г разганяецца за 7,7 с.



Ахвяраў магло б быць больш.

**МКАД абсталююць гнуткімі алюмініевымі слупамі**

Мінская кальцавая аўтадарога — адна з самых аварыйных у краіне. За 9 месяцаў года ў аварыях на МКАД загінулі 10 чалавек, з іх 4 — у выніку ўдару аўто ў слуп. Да канца года плануецца абсталяваць МКАД траўмабяспечнымі слупамі. Пры ўдары аўто падмінае такі слуп пад сябе. Ён прымае на сябе асноўную частку энергіі, дэфармуецца і наносіць мала шкоды аўтамабілю. Робяць такія апоры з дзюралюмінію.

**П'яныя за рулём — масава**

За 10 месяцаў года супрацоўнікі ДАІ затрымалі больш як 40 тысяч нецвярозых кіроўцаў. З усіх аварый у кожнай сёмай вінаватыя кіроўцы, якія выпілі за рулём. Сёлета такімі ўчынена 546 ДТЗ, у выніку якіх загінулі 140 і атрымалі раненні 612 чалавек. Кожны дзясяты кіроўца, у якога забралі правы за п'янкі, цягам года зноў сядае за руль.

**СП**

**Фотафакт**

У Мінску будаўнік выжыў пасля падзення з 26 паверха. Пад мужчынам абрынуліся рыштаванні, і ён праляцеў уніз, чапляючы рыштаванні, каля 15 метраў. З цяжкімі траўмамі ён шпіталізаваны.

Здарэнне адбылося 26 лістапада на будоўлі жылога дома ў мікраараёне Лебядзіны-2. Гэта новы раён блізка рынку Ждановічы, на захадзе Мінска. Вядома, што пацярпеламу 56 гадоў, ён — жыхар горада Ліда.



# Мінскія падлеткі рабавалі аднагодкаў

Кралі шалікі, шапкі, майкі.

Некалькіх падлеткаў 15—17 гадоў арыштавалі, яшчэ парачку адпусцілі «пад падпіску». Два месяцы яны арганізавана рабавалі такіх самых непаўналетніх.

У інтэрнэце яны пазіцыянавалі сябе футбольнымі фанатамі. Праз сацыяльныя сеткі знаёміліся з сапраўднымі фанамі-падлеткамі, дамаўляліся набыць у іх клубную атрыбутыку. Прызначалі сустрэчы, а затым пад пагрозай збіцця забіралі шалікі, шапкі, майкі і іншыя рэчы з футбольнай сімволікай. Аднятыя рэчы лічылі трафеямі і абменьваліся імі паміж сабой.

Следчы камітэт завёў крымінальную справу за крадзеж, здзейснены групай асобаў з пагрозай ужывання гвалту. Па словах прадстаўніка УСК па Мінску Аляксандра Герасімава, вядома мінімум пра дзве такія групы і некалькі эпізодаў, здзейсненых у кастрычнікулістападзе. Некаторых падазраваных змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання, іншых адпусцілі пад падпіску аб яўцы.

Па словах Герасімава, падлеткі не ўсведамлялі, што робяць злачынствы, успрымалі гэта як такую гульню, самасцвярджэнне. «За такія злачынствы прадугледжана пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды на тэрмін да пяці гадоў альбо пазбаўлення свабоды ад двух да шасці гадоў. І нават калі рашэннем суда непаўналетнія не будуць абмежаваныя ў свабодзе, то судзімасць за цяжкае маёмаснае злачынства можа надта сапсаваць рэпутацыю хлапцоў і паўплываць на іх будучыню», — адзначыў Герасімаў.

**Паводле БелТА**

## Сціслa

### Выжыў у аварыі, памёр у бальніцы

2-гадовы хлопчык, які трапіў у аварыю з удзелам беларускіх праграмістаў пад Лоддзю, памёр. Ён перажыў сваіх бацькоў на тры дні. Аварыя адбылася 18 лістапада. Трое дарослых загінулі адразу, а хлопчыка выкінула з аўто. Але пашкоджанні аказаліся надта моцнымі. 25 лістапада ўсю сямейку пахавалі ў Мінску.

### Jaguar да сталіцы не даехаў

25 лістапада кіроўца аўтамабіля «Ягуар», які рухаўся з аэрапорта «Мінск-2» у бок сталіцы, на 36-м км аўтадарогі М2 вылецеў на раздзяляльную паласу і ўрэзаўся ў ліхтарню. Загінула 28-гадовая жанчына-пасажырка.

### Бедныя студэнты

Ноччу 18 лістапада трое невядомых селі ў таксі і папрасілі падвезці ў Серабранку. Пасля не захацелі плаціць. Больш за тое, пагражаючы пнеўматычным пісталетам, паспрабавалі забраць выручку. Кіроўца кінуўся наўцёкі. Нападнікі беглі за ім, пакуль не нарваліся на міліцэйскі нарад. Тады яны кінуліся назад, прыхапіўшы з салона таксі грошы і рэчы. Распачата справа за рабаўніцтва. Падазраваныя былі затрыманы адначасова ў Мінску і Магілёве. Двое вучацца ў сталічнай навучальнай установе, а трэці прыехаў у госці. Вось і адзначылі сустрэчу «геройствам».

### Пагражаў медыкам

52-гадовы гамяльчук выпіваў са знаёмымі, калі адной з іх стала дрэнна. Выклікалі «хуткую». Але медыкі, зрабіўшы кардыяграму, адмовіліся жанчыну забіраць у бальніцу — маўляў, не было падстаў. Гаспадара кватэры гэта абурыла, і ён кінуўся з нажом на фельчара. Медыкі зрабілі ногі і выклікалі міліцыю. Цяпер гамельчуку пагражае тэрмін за пагрозу забойствам.

### П'яная адвозіла сына ў школу

24 лістапада мінскія даішнікі каля гімназіі №16 спынілі «БМВ» для праверкі дакументаў. Міліцыянтаў насцярожыў выгляд жанчыны-кіроўцы. Яе адправілі на экспертызу. У выніку ў крыві знайшлі 0,84 праміле алкаголю. Стала адгаворвацца, што, маўляў, перад тым вечарам выпіла бутэльку шампанскага, а ранкам села за руль, каб адвезці сына ў школу. Але ж так не бывае.

### Таблетак за $700 тысяч

У пункце пропуску «Казловічы» на Брэстчыне выявілі вялікую кантрабанду. У прычэпах фуры, што ехала транзітам з Харватыі ў Расію, згодна з дакументамі, знаходзілася 10 тон лекаў трох найменняў. Пры праверцы выявілі лішніх 150 тысяч упаковак Cerucal-у на 6 млрд рублёў. Лішкі канфіскаваныя.

### Хатні спіртзавод

У Петрыкаве сацыяльнаму работніку надакучыла беднасць. Мужчына пачаў выраблць і прадаваць самагон уласнага разліву. У хатнім спіртзаводзе міліцыя выявіла 1350 літраў брагі і 854 бутэлькі гатовага «віскі», тры самагонныя апараты. Увесь міні-завод пайшоў на злом.

**КМ**

# «Нашто абмяркоўваць тое, чаго няма?»

**Шэф БАТЭ Капскі** пра чэмпіянат СНД па футболе.

«Наша Ніва» запыталася ў старшыні праўлення футбольнага клуба БАТЭ Анатоля Капскага меркаванне наконт прапановы кіраўніка «Газпрама» Аляксея Мілера заснаваць чэмпіянат СНД па футболе, якую ён агучыў у інтэрв'ю газеце «Советский спорт».

«Не хачу нават абмяркоўваць гэтую тэму, — адрэзаў Анатоль Капскі. — Нашто абмяркоўваць тое, чаго няма?» Па яго словах, абмеркаванню падлягаюць нейкія канкрэтныя прапановы, а іх у дадзенай сітуацыі няма.

Нагадаем, што кіраўнік «Газпрама» Мілер, які адначасова з'яўляецца і старшынёй ФК «Зеніт», выказаў ідэю стварэння чэмпіянату па футболе сярод краінаў СНД.

«Многія лічаць, што мы маглі б разыгрываць чэмпіянат СНД. Я таксама з'яўляюся перакананым прыхільнікам гэтай ідэі. Калі надыдзе час ствараць новы чэмпіянат, мы будзем дзейнічаць і рабіць абдуманыя крокі толькі ўзгоднена з людзьмі, якія падтрымліваюць мэту ствараць чэмпіянат па футболе краін Садружнасці. Такая размова днямі адбылася, так што адказ станоўчы: можа быць, мы і будзем гуляць у іншым чэмпіянаце», — сказаў Мілер.

Адразу пайшлі чуткі, што «Газпрам» гатовы ўкласціся ў мінскае «Дынама», якое ніяк не адродзіць былую славу.

**Кірыла Хілько**



**Што б гэта значыла?**

## У Гомелі скралі віртуальны танк

**Які прыбытак** можна з такога «згону» мець?

У жыхара Гомеля (імя ў інтарэсах следства не раскрываецца), аматара анлайн-гульні World of Tanks, скралі... віртуальны танк. Гаспадар звярнуўся ў міліцыю, якая цяпер шукае «злодзея».

«Інфармацыя пра тое, што танк «разабралі і прадалі па запчастках», стала проста жартам дня ва ўсёй кампаніі, — расказаў «НН» адзін з супрацоўнікаў СААА «Гейм-Стрым», якая стварыла гульню. — Гэта проста тэхнічна немагчыма».

Паводле распрацоўшчыкаў, схема «крадзяжу» выглядае наступным чынам: злачынца выкрадае акаўнт карыстальніка (напрыклад, даznаўшыся пароль). Пасля тэхніка, зарэгістраваная за гэтым акаўнтам, ці сам акаўнт перапрадаюцца.

Які ж прыбытак можна з такога «віртуальнага ўгону» мець? «У нас каля 260 танкаў, яны бясплатныя, за грошы прадаюцца танкі «прэміум-класа»: усяго штук дваццаць, — растлумачылі «НН» у кампаніі. — Відаць, у гэтага чалавека з Гомеля ў танк былі ўкладзеныя рэальныя грошы. Каштуюць такія танкі ад пяці да пяцідзесяці даляраў». Суразмоўца «НН» выказаў версію, што танк у гамельчука быў не адзін.

Аднак цяпер перапродаж скрадзенага акаўнта нічога не дасць ні выкрадальнікам, ні тым, хто яго набудзе: ледзь толькі хтосьці паспрабуе «паездзіць» на танку па віртуальнай прасторы, акаўнт будзе адразу заблакаваны.

Пошукам «злодзея» цяпер займаецца УУС Гомельскага аблвыканкама. Крымінальная справа пакуль не распачатая, ідзе праверка. Па якім артыкуле яна можа быць заведзеная — у Следчым камітэце не паведамляюць. Аднак інфармацыя пра максімальны тэрмін зняволення (да дзесяці гадоў) у прэсу пратачылася. Супрацоўнікі ж кампаніі мяркуюць, што крадзеж акаўнта з перапродажам будзе найхутчэй класіфікаваны як махлярства.

У інтэрнэце з'явілася і жартоўная версія, што да знікнення танка маюць дачыненне сяброўкі суполкі «Жонкі супраць World of Tanks». Гэта група «Укантакце», якая акрэслівае сябе як «тыя, хто са з'яўленнем World of Tanks страціў мужоў».

**Юрась Ускоў**



Між брытанскіх, нямецкіх, савецкіх танкаў у гульні трапляюцца і беларуская.



**Фотафакт**

**«ВІА Гры» больш не існуе. Уся рэч у тым, што больш я не бачу прычын для працягу існавання гурту. Можна сказаць, што мне гэта надакучыла і я вырашыў закрыць гэты праект раз і назаўжды», — заявіў прадзюсар «ВІА Гры» Валерый Меладзэ.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Кастусіны банькі, альбо У пошуках болю

Скруціла спіну.

Такое аднойчы ўжо было — не зварухнуцца...

Тэрапію назначала бабка Кастуся: «Трэба ставіць банькі...»

На ўсю вёску банькі, калі хто яшчэ памятае што гэта, былі толькі ў Кастусі. Але спірту, каб паставіць банькі, у яе не было. Была газа.

Ажно тыдзень я ляжаў, уцісnуты ў ложак, нерухомы, бы калода, слухаючы, як шустраць за падранымі шпалерамі мышы, і дыхаючы салодкімі выпарэннямі газы...

Пазней я даведаўся, што банькі Кастуся ставіла ад усіх хвароб.

...Прайшло паўстагоддзя.

Што і казаць — шчаслівы чалавек, якому круціць спіну раз на паўстагоддзя.

Але вельмі няшчасны чалавек, якому так баліць...

Кастуся, агу-у-у!

Замест Кастусі слухаўку зняў Віктар Іванавіч — загадчык аддзялення паліклінікі.

«Інтэрнэтам карыстаецеся? — спытаў Віктар Іванавіч. — Да нас можна папасці і праз інтэрнэт...»

О, інтэрнэт! Ні да аднаго доктара талонаў не было аж да сярэдзіны снежня.

«А вы не чулі, што лекараў не хапае? — заўважыў Віктар Іванавіч. — Хочаце параду? Заплаціце 20 тысяч — і вы ў лекара без аніякай чаргі... Ці ж то грошы?.. Толькі нікому на мяне не спасылайцеся, мне год да пенсіі...» — «Добра, не спашлюся. Але парайце, да каторай з дзвюх вашых доктарак паўзці, якая лепшая...»

Віктар Іванавіч назваў прозвішча: «...хутка таксама за мяжу з'едзе, ужо афармляецца...»

...Ад раніцы я ледзь дапоўз да лякарні. І ўжо на падыходзе адчуў сорам і жах.

З усіх бакоў цягнуліся да дзвярэй старыя людзі, шчаслівыя ўладальнікі запаветных талонаў. Хто кульгаў, абапіраючыся на палкі, хто самастойна ледзьве

### Ніхто не навучыўся абязбольваць старасць »

перастаўляў ногі, хто бокам-бокам, бы параненая качка, але ж узбіраўся на чарговую прыступку...

Нідзе і ніколі я не бачыў такой колькасці старых і нямоглых.

Ужо таўкліся дзве доўгія чаргі да рэгістратуры і гардэроба, а старыя ўсё ішлі ды ішлі, з асцярогай соўгаючыся па слізкаватай падлозе.

«Шапкі з сабой! Шапкі мы не прымаем!» — віскатліва крычала хударлявая, ужо ад раніцы ўся на апошнім нерве гардэробшчыца. Я працягнуў сваю. «Вы што, не чуеце?! Закон аднолькавы для ўсіх!» — і з нейкім гадзючым імпэтам тыцнула ўгару, дзе на паперцы быў намаляваны «закон».

Ляскаў дзвярыма, бы гільяціна, падрапаны ліфт, заціскаючы кожнага, хто не прыспешваў хаду. «Трымайцеся, трымайцеся чорную кнопку!» — лямантавала чарга. Бабульцы ў самавязаным какетлівым барэце ледзь не заціснула галаву...

З шапкай пад пахай я накіраваўся ў «кабінет платных паслуг»...

«Тут баліць? — спытала лекарка, якая хутка з'едзе за мяжу. — А тут?»

Тут баліць.

Нідзе, мусіць, так не баліць, як тут.

Вядома, ніхто яшчэ не навучыўся абязбольваць старасць.

Але што рабіць з болем пакалення, якое, ледзь трымаючыся на нямоглых нагах, падлічвае апошнія грошыкі перад аптэкарскімі акенцамі?

Куды ён падзеўся, боль за старасць?

Словы, словы, словы... Паклоны, паклоны, паклоны... Крыхі, крыхі, крыхі...

Тут нават прыклады не патрэбны, у кожнага старога чалавека свая гісторыя хваробы, больш жахлівая, чым мая. Што мая? Так, дробязь — «чаму сурвэткі не прынеслі?».

У пошуках адказу на пытанне, чаму ў паліклініках няма нават папяровых сурвэтак, я зазірнуў у «сацыяльна арыентаваны» бюджэт на 2013 год. Сілавікі ды суддзі — 10 з паловай трыльёнаў рублёў. Ахова здароўя — удвая менш. Паміж імі — войска, «эфектыўная» сельская гаспадарка і абслугоўванне дзяржаўнай пазыкі, у якім, дарэчы, на вяртанне старым савецкага доўгу ані капейчыны. Мусіць, чакаюць, пакуль зусім не стане каму вяртаць...

Не, не знайшоў я ў гэтым утварэнні жыруючых у раскошы «вечна маладых» болю за старасць.

Знайшоў дзяржаву, дзе людзям з дубінкай плацяць больш, чым за лячэнне наступстваў лупцавання.

Знайшоў абрабаванае пакаленне, якое сышло ў нябыт яшчэ пры жыцці.

«...Хвароба прыходзіць знянацку, — заспакойвала Кастуся, — а праходзіць вой як марудна...»

І праўда, марудна.

Ужо амаль 20 гадоў...

# Нялялечныя «Дзяды»

У Тэатры лялек паставілі спектакль паводле Міцкевіча. **Без лялек**.



Сто палітвязняў сядзяць у турме. Гэта студэнты-філаматы. Яны вучыліся ў Віленскім універсітэце, заснавалі «экстрэмісцкую арганізацыю дэструкцыйнай скіраванасці». Каляды яны сустракаюць у вязніцы... Гэта «Дзяды» Адама Міцкевіча — класіка польскай літаратуры, свая для беларусаў. Бо Міцкевіч нарадзіўся ў Беларусі, пісаў пра падзеі на нашай зямлі і нават сам абрад Дзядоў, вакол якога закручаная паэма, характэрны для Беларусі, а не для Польшчы.

Адам Міцкевіч таксама мог апынуцца сярод тых вязняў. Ён таксама быў сярод заснавальнікаў «незарэгістраваных арганізацый». Чыстая выпадковасць: аўтар, трохі старэйшы, ужо скончыў універсітэт, працуе ў Коўне настаўнікам лаціны.

Міцкевіч пачаў пісаць «Дзяды» ў 22 гады (столькі цяпер палітвязню Васьковічу). А скончаў пасля паразы «Плошчы» 1830 года. Праўда, то быў не мітынг, а паўнацэнная вайна з Расіяй. Вайна за свабоду Польшчы, Рэчы Паспалітай — Беларусь тады яшчэ не аформілася як самастойны суб'ект.

Нездарма з варшаўскай пастаноўкі «Дзядоў» 1968 года пачалася «студэнцкая вясна», якую ўлады раздушылі, але важакі якой праз 12 гадоў пайшлі да рабочых ствараць «Салідарнасць».

«Дзяды» можна расчытаць і як універсальны твор пра свабоду за кратамі. Хоць самыя «палітычныя» часткі паэмы ў спектакль не трапілі.

Дзея пачынаецца са сцэны вечара перад Дзядамі. Гусляр выклікае душы памерлых...

Пацанскі стыль ігры галоўнага героя, Густава-Конрада, у вусны якога Міцкевіч укладаў свае думкі, — спрэчны.

Час ад часу з-за кулісаў, нібы з фільма Кустурыцы, вылятае аркестр. На сцэне ў гэтым спектаклі Лялечнага — жывыя людзі. Лялькі — толькі шкілеты ды каларадскія жукі.

Каларадскія жукі з'яўляюцца ў сцэне Калядаў у вязніцы. Вязні ядуць іх, закусваюць імі, занюхваюць. Яны вымушаныя жыць з імі, сярод іх. Вялізны цень ад маленькага каларадскага жука з маленечкім вершнікам на задніку сцэны выглядае як «Медны вершнік» — помнік цару ў сталіцы імперыі. Што страх чалавечы робіць!

Калі адзін з вязняў «зрываецца» і пачынае занадта адкрыта прамаўляць пра свабоду, рэшта налятае на яго, хапае, затыкае рот падушкай...

Густаў памірае, Конрад нараджаецца. У фінале на экране паказваюць кінахроніку — XX стагоддзе, сусветныя войны, калектывізацыя, Гітлер ляціць над руінамі Мінска... Рэжысёр выбраў гэтыя кадры, а не, скажам, партрэты Міцкевіча і Марылі Верашчакі.

«Дзяды» паставіў малады рэжысёр Аляксандр Янушкевіч. Здаецца, у Янушкевіча ёсць творчая будучыня. Калі пастаноўшчык у класічных тэкстах шукае сучаснасць, ён заўжды будзе сучасны. Інакш навошта тэатр? Не на дэкарацыі і касцюмы ж глядзець.

Абодва паказы прайшлі пры аншлагу і скончыліся авацыямі. Моладзь у блогах пра спектакль адгукаецца захоплена. Беларускі тэатр найчасцей шаблонны. Пастаноўкі схематычныя, акцёры граюць тыпова, а рэжысёры баяцца парушыць ідэалагічныя схемы. Прыкладамі гэтых клішэ нядаўна былі выкананыя з найлепшымі намерамі «Сівая легенда» ў Оперы і «Местачковае кабарэ» ў Купалаўскім.

«Дзяды» ў Ляльках спадабаліся моладзі не толькі Міцкевічавым зместам, але і Янушкевічавым пошукам новых формаў. Напрыклад, Сямён Букчын у «Народнай волі» крытычна адгукнуўся пра выкарыстаныя ў спектаклі мультымедыйныя сродкі — інтэрактыўная трансляцыя з вэб-камеры са стала на экран і г.д. Між тым, моладзі і гэта падабаецца. Бо і гэта нова для мінскай сцэны!

І нават калі інтэлектуальны ўзровень выпускнікоў мінскіх Акадэміі пачатку XXI ст. ніжэйшы за ўзровень выпускнікоў Віленскага ўнівера пачатку XIX ст., імкненне да творчага пошуку ўрэшце кампенсуе прабелы ў адукацыі.

**Сяргей Мікулевіч**

# Беларусь вачыма французскага палкоўніка

**Унікальная выстава** ў Нацыянальным мастацкім.



**На падыходзе да Полацка, 25 ліпеня 1812 года.**

У Мінску ідзе выстава Фабэра дзю Фора, мастака і палкоўніка арміі Напалеона. У 1812 дзю Фор прайшоў Беларусь двойчы — ідучы да Масквы і назад. Выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочцы. Графіка Х.В. фон Фабера дзю Фора» будзе цікавая не толькі мастацтвазнаўцам ды гісторыкам... Нехта тут можа пазнаць родныя мясціны, а нехта і задумацца пра пераменлівасць фартуны.

Хрысціян Вільгельм Фабер дзю Фор нарадзіўся ў 1780 у Нямеччыне ў сям'і нашчадкаў французскіх гугенотаў. Вывучаючы мастацтва і займаючыся маляваннем з дзіцячых гадоў, дзю Фор, аднак, абраў кар'еру вайскоўца. У 1809 ён добраахвотна далучыўся да «Вялікай арміі» Напалеона. У 1812 г. служыў у рэзерве 25-й пяхотнай дывізіі, дайшоў да Барадзіно.

Яго малюнкі, зробленыя ў Беларусі, вельмі натуралістычныя, насычаныя дэталямі, што для нас ёсць найкаштоўнейшым дакументам тае эпохі. У творчы дабробак дзю Фора, што датычыць нашага краю, уваходзяць сотні малюнкаў і шкіцаў, 100 акварэляў, два жывапісныя палатны — «Пераправа праз Бярэзіну» і «Кавярня Lichtenstein у Вільні». Віды Улы, Сянна ці Бешанковічаў сталі нагул адзінымі выявамі, з якіх мы можам уявіць нашыя краявіды тае драматычнае эпохі.

Літаграфіі «Ваколіцы Смаргоні. 1812», «Полацк 1812», «Бівуак у Лёзне. 1812», «Від Сянна. 1812», «Пераправа праз Бярэзіну 28 лістапада 1812 года», што выйшлі ў альбомах, сталі класікай еўрапейскага гісторыка-батальнага жанра. Пры тым у творах мы можам вычуць і вельмі асабістае стаўленне мастака да тых трагічных падзеяў у Беларусі.

Напалеонаўскім ваярам увогуле належыць пачэснае месца ў жанры архітэктурнага пейзажу Беларусі. Багата твораў пакінуў мастак Альберт Адам, які браў удзел у паходзе ў складзе IV корпуса Багарнэ. Нямецкі баталіст Петэр Гес у 1840-я праехаў напалеонаўскім шляхам і зрабіў шматлікія замалёўкі і акварэлі. Вялікую мастацкую каштоўнасць маюць і архітэктурныя краявіды Беларусі, створаныя французскім мастаком, сынам вэтэрана 1812 года, Барталамеем Лавэрнем.

Невыпадкова і Напалеон Орда вучыўся ў французскіх арітэктурных пейзажыстаў. Але пра гэта — асобна, а сёння раю ўсім схадзіць у Нацыянальны мастацкі, паразглядаць краявіды і архітэктуру, угледзецца ў твары і французаў, і беларусаў тае пары, калі не было фатаграфіі.

**Сяргей Харэўскі**

**Кніга, якая зачапіла**

# Дык гэта пекла? Зусім не




**Васіль Петручук. Крышынкі.** — Prymat (Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»): Беласток, 2009, 170 с.

У Беластоку выдаюць нямала добрых кніг на беларускай мове. Але ў РБ яны амаль не прадаюцца. Вельмі шкада. Кнігі падляшскіх літаратараў — нешта выразна адрознае ад таго, што выдаецца з нашага боку мяжы.

Аўтар «Крышынак», Васіль Петручук, нарадзіўся ў 1926 у вёсцы Грабавец недалёка ад Бельска. У «Крышынках» ён проста апісвае сваё сірочае дзяцінства ў глухой вёсцы. І робіць гэта настолькі таленавіта, што адарвацца цяжка.

Жыццё тады — зусім нядаўна — было не для танкаскурых. Людзі галадуюць і хаваюць ад дзяцей кавалак хлеба. Жанчыны родзяць дзяцей на земляной падлозе і на вачах іншых дзяцей. У калысцы немаўляці кішаць чэрві, а побач замярзае вада ў вядры... Гавораць матам-пераматам усе, у тым ліку жанчыны і дзеці, сварацца і праклінаюць адзін аднаго... Тут бацька сына б'е, душыць і рагоча, калі таму балюча. Тут праца пастушка — гэта не ідылічныя пейзажы і кароўкі з банцікамі на шыі, а вечны недасып, халодны дождж, падраныя порткі («У тэбэ з нагавыць тіело свіетыт: брыдко і гуорш зімно!» — гэта на падляшскай гаворцы). А есці ёсць толькі зялёнае шчаўе... І гнайнікі на ўсім целе, якія ніколі не праходзяць, а толькі мяняюцца месцамі. Калі нарэшце «нарве і прарвецца» адзін і выцячэ з яго кроў і гной, то побач з'яўляецца другі...

Дык гэта пекла? Зусім не. На працягу ўсяго жыцця аўтар будзе імкнуцца прыязджаць як найчасцей у родную вёску. І пісаць ён будзе заўсёды толькі пра гэтую зямлю (у электроннай бібліятэцы «Камунікат» даступная яшчэ адна кніга сп. Петручука, «Пожня»). Сюды будзе цягнуцца ягонае сэрца і душа. (А куды будуць цягнуцца душы сучасных дзяцей? У піцэрыю ці Егіпет?)

Пасля такога дзяцінства «пуцёўка ў жыццё», выдадзеная камуністычным ладам, успрымалася як выратаванне. Аўтар стаў афіцэрам дзяржбяспекі, які змагаўся супраць ворагаў сацыялістычнай Польшчы, у тым ліку супраць ваякаў УПА: «Ужо цяпер не скажу, што якіхсь бандытаў, бо гэта былі салдаты, так як і я».

Гэта, дарэчы, абвяргае стэрэатыпы аб тым, што ў спецслужбах няма людзей з беларускай тоеснасцю.

На пытанні, якія ўзнікаюць падчас чытання «Крышынак», аўтар не заўжды дае адказ. Але так заўсёды бывае, калі чытаеш добрыя кнігі.

**Наталка Бабіна**

# Падарожжа вакол

Краіна Ахмадзінежада і ўнутранай свабоды — вачыма мінскага студэнта **Яўгена Ціханава, кругасветнага падарожніка**.



Мне становіцца страшна, яшчэ калі я падыходжу да іранскай мяжы. Ззаду — сады з інжырам, чыстыя рэкі, шчырыя простыя людзі. Спераду — чатырохметровая сетка з дротам і камерамі. За дротам — брудная гліняна-пясочнага колеру рака (дарэчы, адзіная рака, якую я сустрэў за месяц у Іране), за ёй — такога ж колеру горы. За дротам Іран.

Я не ведаю, як сябе паводзіць, як пачувацца. Асцярожна праходжу мяжу (упершыню ў жыцці хоцьяк скарыстаўшыся англійскай) і заміраю: на мяне ўтаропліваецца дарожны знак, напісаны на персідскай.

Крыху далей — знак абмежавання хуткасці; лічбы на ім я не разумею, яны таксама персідскія.

Як ставіцца да мясцовых — няясна. На ўсялякі выпадак ківаю галавой пастуху і выходжу галасаваць. У першай машыне еду моўчкі — кіроўца не ведае англійскай. Вакол шашы раз-пораз стаяць назіральныя вежы, абнесеныя дротам. Кіроўца нервуецца, ён забараняе мне здымаць і падымае шкло.

У бліжэйшым горадзе машына спыняецца, я выходжу.

Вакол мяне — пясочнага колеру аднапавярховыя дамы з пляскатым дахам. Я стаю на цэнтральнай вуліцы. Раз-пораз хутка праходзяць жанчыны, захутаныя ва ўсё чорнае. Яны ідуць па справах, жанчыны тут не шпацыруюць, у адрозненне ад мужчын, якія могуць ся-дзець на ганках дамоў, ляніва перагаворваючыся. Над усім гэтым неправыўнай заслонай вісіць голас, што змрочна і панура чытае штосьці на персідскай. Я не магу зразумець, адкуль ідзе гэты голас, падаецца — адусюль. Можа, гэта малітва, можа — радыё, але ў галаве ўсплываюць асацыяцыі адно толькі з Оруэлам.

Я пачынаю рухацца да выхаду з горада, і цэнтр змяшчаецца ра-зам са мной — я іншаземец, на мяне скіраваныя дзясяткі маўклівых позіркаў. Здымач я наважваюся дастаць толькі тады, калі горад застаецца за спінай. А змрочны голас яшчэ доўга суправаджае мяне.



### Партрэты Імамаў

Іран — гэта сваё, родненькае. Гэта Савецкі Саюз адначасова трыццатых і сямідзясятых, гэта сучасная Беларусь — у выглядзе на перспектыву.

На вуліцах паўсюль — партрэты двух Імамаў (вы помніце гэтыя савецкія «на тры чвэрці» партрэты Леніна і Сталіна?), нейкія рэлігійныя лозунгі. На ўсіх сценах урадавыя графіці з прапагандай.

Вуліцы напоўненыя рознага кшталту паліцыяй: акрамя некалькіх тыпаў звычайнай паліцыі, тут ёсць спецыяльная структура пад назвай «Басідж». Басідж набіраюцца з добраахвотнікаў і маюць большыя за паліцыю паўнамоцтвы. Яны выконваюць функцыю «паліцыі нораваў»: апранутыя ў цывільнае, яны ажыццяўляюць нагляд за норавамі і палітычнымі настроямі.

Інтэрнэт тут цэнзуруецца. Акрамя блэкліста, у якім, вядома ж, Фэйсбук, Укантакце, Твітар, Ютуб. Паводле якога прынцыпу гэта ўсё працуе, зразумець цяжка: google.com працуе, а google.ru — не; сайт «Нашай Нівы» заблакаваны, а «Хартыя», наадварот, дасяжная.



**Маўзалей Леніна — дзіцячая цацка ў параўнанні з маўзалеем Хамейні. На здымку — менш за дзясятую частку комплексу, прызначанага для аднаго мёртвага чалавека.**

Спадарожнікавае ТБ тут таксама забароненае. Нягледзячы на гэта, па прызнанні саміх уладаў, спадарожнікам карыстаецца каля 40% насельніцтва. Час ад часу паліцыя робіць рэйды, канфіскуе талеркі, выпісвае вялікія штрафы. Аднак праз пэўны час людзі выкупляюць уласныя ж талеркі ў карумпаваных паліцэйскіх. Цыкл паўтараецца.

### Наркотыкі і чадар

У іранскай кавярні ты ніколі не знойдзеш алкаголь, ён тут забаронены. За ўжыванне алкаголю належыць 72 удары бізуном. На трэці раз — смяротная кара праз шыбеніцу.

Наркотыкі таксама быццам забароненыя, аднак тут ступень адказнасці залежыць ад цяжару рэчываў і намераў: калі зловяць з «касяком» у руцэ — праз некалькі гадзін адпусцяць. Калі ж возьмуць з партыяй гераіну — гэта стапрацэнтная шыбеніца.

Усе жанчыны на вуліцы абавязаны насіць чадар — гэткая вязніца, што заўсёды з табой. Спецыяльнае аддзяленне жаночай паліцыі назірае за тым, каб жанчыны не злоўжывалі касметыкай, каб валасы не выбіваліся з-пад чадра, каб рукавы былі не надта кароткімі. Калі што не так — арышт, бізуны, штрафы. Такая сітуацыя спарадзіла нечуваную жаночую салідарнасць: усе жанчыны Ірана маюць вылучаны канал невербальнай сувязі, цэлую сістэму апавяшчэнняў, незаўважных знакаў. Аднойчы я адмыслова назіраў за гэтым. Калі жанчына заўважае ў іншай штосьць «забароненае», напрыклад, нядбайна накінуты чадар, яна падае амаль незаўважны жэст і тая выпраўляе сітуацыю. Калі хтось заўважае побач аддзяленне жаночай паліцыі, інфармацыя імгненна пашыраецца ва ўсе бакі нейкім звышхуткасным чынам — пры дапамозе адмысловых поглядаў, жэстаў. Імгненне — і вакол паліцыі няма ніводнай жанчыны.

У грамадскім транспарце мужчыны і жанчыны ездзяць паасобку. Пасярэдзіне кожнага аўтобуса стаіць бар'ер: мужчыны заходзяць у пярэднюю частку, жанчыны — у заднюю. У метро таксама ёсць вагоны для жанчын.

Сацыяльная інфраструктура, дарэчы, развітая ў Іране няблага: у сталіцы даўным-даўно ёсць вылучаныя лініі для грамадскага транспарту. У метро ходзяць безвагонныя цягнікі сучаснага тыпу. Амаль усе ходнікі маюць разметку для невідушчых людзей. Гарады маюць незлічоную колькасць выдатна ўладкаваных паркаў і зялёных зонаў. Трасы ж — прадмет зайздрасці любой дзяржавы і мара любога кіроўцы. Усе яны заасфальтаваныя проста бездакорна.

### Тысяча смерцяў — занадта многа

Іран — краіна ў андэграўндзе. Нягледзячы на ўсе забароны, тут можна набыць алкаголь, наркотыкі і жанчыну. Усё гэта працуе па нейкіх адмысловых схемах, бо людзі рызыкуюць жыццём.

За месяц жыцця ў Іране я не пабачыў аніводнага чалавека, які б сказаў, што падтрымлівае ўладу. Чатыры гады таму ў Тэгеране адбыўся грандыёзны мітынг. На вуліцах горада з маўклівым пратэстам стаяла больш за чатыры мільёны чалавек. Без лозунгаў і транспарантаў, моўчкі. «Я быў там, — кажа мне Алі, — у мяне ў кішэні быў нож, я быў гатовы да бойкі. Кожны з нас быў гатовы біцца да апошняга, але мы стаялі і маўчалі. Тады яны пачалі страляць». На дахах дамоў сядзелі ўрадавыя снайперы, якія прыцэльна білі па пратэстоўцах. Паліцыя страляла знізу. Падчас пратэстаў загінула больш за 1000 чалавек, некалькі тысячаў былі арыштаваныя. «Больш мы не пратэстуем. Тысяча смерцяў — занадта нават

**Тэгеранскае таксі**

самы пашыраны тып грамадскага транспарту. Частка ездзіць на замову, але большасць выконвае функцыю маршрутных таксі. Людзі стаяць на ўзбочыне і выкрыкваюць назву пункта прызначэння, пакуль не спыніцца патрэбная машына.



**На іншаземца глядзяць як на дзіва, але без агрэсіі. Метро. Галоўны рынак. Тэгеран.**



**Унутры галоўнага мячэта. Здымкі, вядома, забаронены.**

# зямлі: Іран



для такой вялікай краіны. Ніхто не хоча губляць блізкіх».

Кожны, з кім я бачыўся ў Іране, марыць з'ехаць, але гэта складана. Часцяком маладыя хлопцы зусім не маюць пашпарта (і, адпаведна, магчымасці выехаць), пакуль не адслужаць у войску. Служыць жа ніхто, вядома, не хоча. Да таго ж, пасля Ісламскай Рэвалюцыі 1979 Іран парваў усе дыпламатычныя зносіны з Захадам. 4 лістапада 1979 была захопленая амбасада ЗША, дыпламаты правялі ў закладніках 444 дні. 29 лістапада 2011 была захопленая брытанская амбасада, шасцёра яе супрацоўнікаў таксама былі ўзятыя ў закладнікі.

### Наступствы рэвалюцыі

Так тут было не заўсёды. Да рэвалюцыі Іран быў цалкам свецкай краінай, іслам вызнаваў далёка не кожны. Былі бары, дыскатэкі, жанчыны маглі апранацца паводле моды.

Пасля рэвалюцыі крок за крокам урад умацоўваў таталітарны рэжым, і сёння Іран — ледзь не адзіная ў свеце сапраўдныя тэакратыя: над парламентам і прэзідэнтам знаходзіцца Духоўны Лідар (Імам) і некалькі кантралюючых утварэнняў, што ацэньваюць дзеянні ўрада з пункта гледжання адпаведнасці Карану.

Неўзабаве пасля рэвалюцыі пачалася працяглая і безвыніковая вайна з Іракам, што скарыстаўся ўнутранай нестабільнасцю ў Іране і выставіў прэтэнзіі на спрэчныя тэрыторыі.

Праз некалькі дзён жыцця ў гэтай краіне я цалкам усякаю ў яе законы і прынцыпы — і высвятляецца, што да мяне яна ставіцца абсалютна не варожа, наадварот. Жыццё ў такіх нялюдскіх умовах спарадзіла ў людзях нечуваную салідарнасць і прагу да лепшага. Кожнага чалавека тут можна чытаць, быццам адкрытую кнігу.

**Каб купіць у Іране сім-картку**

трэба пакінуць не толькі сканы пашпарта, але і адбіткі пальцаў.



**Гіганцкія дзяржаўныя сцягі, зялёныя зоны і аўтаматычныя палівальныя сістэмы — норма. Такія сістэмы ёсць у кожным парку, у кожнай зялёнай зоне.**



**Матацыкл тут ёсць амаль у кожнага.**

### Грошы

З прычыны закрытасці краіны турыстаў тут няшмат, кожны чалавек з-за мяжы для іранцаў — глыток свабоды. Тыя, што марыць вырвацца адсюль хоць куды, з захапленнем слухаюць мае прыгодніцкія байкі і аповеды пра жыццё ў іншых краінах.

Па шчырасці, я планаваў зняць з банкаўскай карткі пэўную суму грошай, але высветліўся адзін важны нюанс, на які нельга забывацца, калі ты выпраўляешся ў Іран. У сувязі з санкцыямі ЗША банкаўская сістэма Ірана адключаная ад сеткі, г.зн. — поўнасцю ізаляваная. Ты не зможаш скарыстацца банкаўскай карткай, дарожнымі чэкамі ці атрымаць грашовы перавод ад сваякоў, усе грошы трэба браць наяўнымі.

Ёсць яшчэ адзін цікавы факт, які тычыцца іранскіх грошай. На маім маршруце Іран апынуўся першай і пакуль адзінай краінай з нацыянальнай валютай, слабейшай за беларускую. Адзін даляр каштуе каля 20000 іранскіх рыалаў. У якасці грашовай адзінкі паўсюдна выкарыстоўваецца туман, які быў валютай Ірана да 1932 года. Адзін туман раўняецца 10 рыалам, гэта крыху памяншае даўжыню цэнаў і стабілізуе эканоміку агулам. Таму, калі ты бачыш на цэнніку 1000, смела цягні з кішэні купюру, на якой намалявана 10000, бо на цэнніку кошт пазначаны ў туманах, а на купюрах — у рыалах.



**Большасць дамоў у Тэгеране не вышэйшыя за 5 паверхаў.**

### Універсітэт павінен быць універсітэтам

Я расказваю іранцам пра палітычную і культурную сітуацыю ў Беларусі — і яны разумеюць кожнае слова, ім гэта ўсё да болю знаёмае. Я цытую ім майго прэзідэнта, паказваю розныя цікавыя інтэрв'ю, дбайна перакладаю ўсю тую бязглуздзіцу на англійскую... але і ім ёсць чым адказаць.

Так, напрыклад, я знаёмлюся з відэазапісам чэрвеньскай сустрэчы прэзідэнта Ірана Махмуда Ахмадзінежада і Дзмітрыя Мядзведзева, на якой адбываецца цікавы дыялог:

Мядзв: How Are You?

Ахм: Yes. Happy New Year.

Да таго ж мне расказваюць безліч цікавых цытатаў Духоўных Лідараў Ірана, адна з якіх мне асабліва запомнілася (дакладны пераклад): «Універсітэт павінен быць універсітэтам. Калі ўніверсітэт не ўніверсітэт — гэта не ўніверсітэт».

Афіцыйна тут забаронена слухаць музыку. І хаця людзей у слухаўках паліцыя не чапае, калі ты будзеш танчыць пад плэер ці гучна ўключыш музыку ў аўто, табой могуць зацікавіцца. Доўгія валасы — таксама сур'ёзная падстава быць затрыманым і гвалтоўна падстрыжаным. Адзін хлопец паказваў мне шнары на галаве: яго малацілі дубінкамі за тое, што ён выглядаў як нефармал.

Нягледзячы на ўсё гэта, моладзь усё роўна збіраецца і грае музыку, бамбіць стрыт-арт і здымае падпольнае кіно. У краіне мноства падпольных рэпетыцыйных кропак, гуказапісвачых студый. Мастацтва — гэта адзіная сфера, дзе ты можаш быць па-сапраўднаму вольным, сапраўды незалежным. Менавіта таму хтосьці ўсё роўна дакументуе пратэсты на плёнку, хтосьці надрыўна пяе пра свабоду, а хтосьці малюе ўласныя мары.

Я не хачу з'язджаць з Ірана. Я закаханы ў гэтую краіну, у яе жыхароў. У людзей, якія кожнае імгненне здзяйсняюць геройскі ўчынак адным толькі ўздыхам, адным позіркам. Я закаханы ў іх прагу да свабоды і творчасці, у іх дзіцячыя светлыя мары. І я спадзяюся, калі я прыеду сюды наступным разам, жанчына ў пашпартным кантролі лагодна ўсміхнецца мяне і страсяне шаўковымі чорнымі валасамі, ужо не схаванымі пад ажур таталітарызму.

**Беларуская амбасада**

Тут нас поясь гарбатай з бутэрамі, адгаворваюць ехаць у Афган і адмаўляюць у месцы для начлегу: маўляў, на тэрыторыі амбасады недастаткова месца для нашых намётаў.

# Чаму выехаў Булгакаў?

Піша **Андрэй Дынько.**

Былы галоўны рэдактар часопіса Arche выездам за мяжу адрэагаваў на справу, якую вядзе Дэпартамент фінансавых расследаванняў.

Як можна меркаваць, пытанні да Булгакава выклікаины не ўласна часопісам, а кнігамі.

А менавіта выданнямі палітычнага характару, што распаўсюджваліся ў Беларусі ў апошні час. Спецслужбы сканфіскавалі больш за 5000 асобнікаў кніг, што выйшлі пад рэдакцыяй Булгакава. Пераважна гэта слоўнікі, гістарычныя і літаратуразнаўчыя выданні. Аднак сярод іх ёсць паліталагічныя тамы — яны, здаецца, і выклікалі агонь. Стралялі ў палітыку, а папалі ў культуру.

Справа Булгакава паставіла пад пагрозу сам выхад Arche. Дэпартамент фінансавых расследаванняў заблакаваў рахунак выдання.

Атакі на Arche выклікалі грамадскае абурэнне. Людзі бачаць за ўсім гэтым спробу задушыць яшчэ адно з нешматлікіх



**Валер Булгакаў.**

выданняў на беларускай мове, прычым высокаінтэлектуальнае. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікала да кампаніі салідарнасці. Публікацыі ў абарону Arche з'явіліся ў шматлікіх інтэлектуальных выданнях Еўропы, уплывовая нямецкая газета «Франкфуртэр альгемайнэ цайтунг» прысвяціла справе каментар.

Гэтая тыповая для нашага часу гісторыя — узгадаем ад'езд прафесара Вардамацкага, журналістаў «Хартыі-97», кіраўнікоў Свабоднага тэатра. Усе яны аказаліся пад ударам праз сваю ўцягненасць у палітыку. Зміцер Дашкевіч, Алесь Бяляцкі выбралі турму перад эміграцыяй.

Палітвязні застаюцца ганебнай плямай на рэпутацыі лукашэнкаўцаў. Але і адток з краіны мазгоў — не меншая ганьба для ўладаў і зло для нацыі.

Ці магчыма культурная дзейнасць за мяжой? Згадайце, што ў эміграцыі тварылі Бродскі, Гамбровіч, Кундэра, Форман. Але! Тут адно вялікае беларускае але! І ў Бродскага, і ў Формана не было пытання з мовай.

Ад эміграцыі ці неэміграцыі сотні інтэлектуалаў лёс чэшскай, польскай і расейскай мовы ніяк не залежаў. А ў Беларусі ён залежыць менавіта што ад соцень людзей. Дзяржаўная традыцыя, гістарычная навука, Arche, што хочаце — усё гэта можна захаваць у эміграцыі. Але мова як жывы арганізм можа захавацца толькі там, дзе ёсць крытычная маса яе носьбітаў. А крытычная маса носьбітаў мовы можа быць толькі ў Беларусі. Як паказвае вопыт, маленькія Беларусі за межамі гістарычнай радзімы не трымаюцца даўжэй за адно пакаленне, якія б шчырыя людзі іх не стваралі.

А мы тут, унутры краіны, на жаль, вельмі блізка калыхаемся ад той крытычнай колькасці носьбітаў.

І не толькі ў мове справа: грамадзянская супольнасць, гэтая аснова сацыяльнага прагрэсу ў высокаразвітым грамадстве, таксама можа быць створаная толькі ўнутры краіны.

З аднаго боку, вырашэнне беларускіх нацыянальных

**Пішаш гісторыю? Пішы! Спяваеш? Спявай! Але як толькі ў цябе Лукашэнка на вокладцы — па табе ўдарацЬ**

праблем праходзіць праз сферу палітыкі. Гэта ўсё пытанні ўлады і дзяржаўнай волі: чыя ўлада, таго і вера. З другога боку, аўтарытарны рэжым тым і розніцца ад дэмакратычнага і таталітарнага, што пры ім дазваляецца ўсё, акрамя таго, што нясе непасрэдную пагрозу гэтай уладзе. Пішаш гісторыю? Пішы! Спяваеш? Спявай! Перакладаеш? Перакладай! Крытыкуеш? Крытыкуй! Але як толькі ў цябе нерэтушаваны Лукашэнка на вокладцы — па табе могуць ударыць.

Мы можам лічыць такія стандарты шкоднымі для будучыні нацыі. Яны могуць абураць. Гэта зусім не тое, што мы бачым па той бераг Буга і Нёмана. Але гэта рэальнасць.

Мы не першыя, хто сутыкаецца з такім выклікам. У «Нашай Ніве» пачатку ХХ стагоддзя, у газеце Купалы і Луцкевічаў, не было ніводнага крытычнага слова пра цара. Аніводнага.

Сістэму крытыкавалі, цара — не. Такі быў час.

Драма Arche — гэта балючы напамін усім, якая тонкая мяжа культуры і палітыкі ў цяперашняй Беларусі. Як толькі ступаеш у зону палітыкі, рызыкуеш мець праблемы. Гэта трэба ўлічваць.

# Беларуская глыбіня. **Трыадзіная краіна**

Піша **Павел Севярынец.**

*Бо тры сведчаць на небе:*
*Айцец, Слова і Святы Дух,*
*і гэтыя Тры — адно.*
*I Яна 5:7*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

— Праваслаўная?.. Усе мы праваслаўныя, правільна славім Бога, — кажа бацюшку шляхетнага выгляду каталічка, што вянчае сына з тутэйшай прыхаджанкай.

— Ну дык царква ж кафалічная, усяленская, — узаемна ўсміхаецца малады бацюшка, — значыць, каталікі мы ўсё-такі!..

— Ды баптысты мы ўсе, баптысты, — далучаецца сам сын, які ходзіць у Дом малітвы, — усе ж хрышчаныя, а «баптызо» і значыць «хрышчэнне».

Тут, у беларускай глыбіні, паспаліты люд часцяком дзеліць уцаркоўленых на «нашых», «хрысціянаў» і «веруючых». «Нашы» — гэта праваслаўныя, «хрысціяне» — адпаведна, каталікі, ну а «веруючыя», вядома, — пратэстанты.

І як не пагадзіцца з пружанскімі суразмоўцамі — усе яны, хто верыць у Хрыста, *нашы*. Усе яны *хрысціяне*. Усе яны *веруючыя*

Ва ўнутраным беларускім моры, заліваным то царкоўнаславянскімі, то лацінскімі, то рэфармацкімі хвалямі, распушчаюцца і пераліваюцца адно ў адно ўсе адрозненні і вострыя грані, спароджаныя сусветнымі раздзяленнямі. І праблісквае, прасвечвае і калышацца ў беларускіх з'явах — глыбока, прамяніста — найвышэйшая любоў, з якой калісьці стварыў гэты свет Госпад.

На цэнтральнай плошчы ў беларускім горадзе ці мястэчку спрадвеку праваслаўная царква, каталіцкі касцёл і евангельскі збор прыязна глядзелі ў вокны адно аднаму: нарэшце сустрэліся! Разыходзіліся, расколваліся, раздзяляліся шмат дзе — у Рыме, Канстанцінопалі, Маскве, Аўсбургу, Трыдэнце... Але вярнуліся адзін да аднаго ў Беларусь.

Містыка і ўзвышанасць праваслаўя, вышкталцоная логіка і рацыя каталіцтва, пратэстанцкая простасць і прага аднаўлення — у трыадзіным беларускім хрысціянстве наноў сышлася ўся поўня вучэння Ісуса Хрыста, рассеяная за дзве тысячы гадоў па ўсім свеце.

«Дзе двое ці трое сабраліся ў Імя маё, там і Я сярод іх» — найвышэйшы сэнс беларускага сінтэзу, сфармуляваны ў Евангеллі. Талеранцыя, унія, унікальны іканапіс, віленскае барока касцёлаў, цэркваў і збораў — вынік хрысціянскага трыадзінства па-беларуску. «Беларусь — краіна найперш хрысціянская, а затым ужо праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая... Нас аб'ядноўвае крыж», — піша Адам Мальдзіс.

Бог-Айцец, Бог-Сын і Бог-Дух. Неспасціжна, нязлітна і непадзельна з'яднаныя любоўю — бо *Бог ёсць любоў.*

І трыадзінства як уласцівасць Бога скразіць ува ўсім тварэнні, праблісквае ў сутнасці чалавечай асобы ды будове народаў, праменіць у духовых феноменах. Нябёсныя іерархіі, паводле айцоў Царквы, траістыя — і, не забудземся, менавіта трацiна анёлаў на чале з сатаной адпала ад Бога. Чалавек — трыадзінства цела, душы і духа, ідэальная ўлада — трыадзінства заканадаўчай, выканаўчай і судовай галінаў, нацыянальныя ідэі фармуюцца ў трыядах — і ці варта здзіўляцца таму, што мы існуем у трохмернай прасторы?..

Тым больш — сусветная царква, тая самая, «адзіная, саборная, апостальская». Бачная царква падзеленая — гэта факт. Але... Праваслаўныя найбольш ушаноўваюць Бога-Айца (згадайма, што ў Сімвале веры крыніцай паходжання святога Духа ўважаецца Бог-Айцец, тым часам як у каталікоў — «філіёквэ» — Айцец і Сын); каталікі з іх Хрыстацэнтрызмам, згаданым *філіёквэ* і асаблівым ушанаваннем Панны Марыі найперш засяроджваюць увагу на Богу-Сыне, а пратэстанты, што святкуюць на Пяцідзясятніцу дзень спаслання Святога Духа, Дзень царквы і шмат увагі надаюць дарам Духа, наймацней у вучэнні пра Бога-Духа. Таму, хто хоча адчуць усю поўню беларускага хрысціянства, найлепш адзначыць Раство ў Касцёле, Вялікдзень — усяночнай у праваслаўных, а Тройцу — (яна ж Пяцідзясятніца) — у пратэстантаў.

Гістарычна менавіта хрысціянскае трыадзінства было кропкай кіпення і пунктам грамадскага росту ў ВКЛ і Беларусі. Узаемапранікненне, канкурэнцыя і сумоўе трох канфесіяў далі нам абуджэнне Залатога веку — час найвышэйшых дасягненняў. Праваслаўная Расея, каталіцкая Польшча, пратэстанцкія Нямеччына ды Швецыя ў розныя часы расцягвалі Беларусь на кавалачкі. Але для краіны, што тысячу гадоў жыве на геапалітычным крыжы, увесь сэнс цэласці не ў выбары якой-небудзь адной канфесіі, а якраз ва ўсведамленні ўласнага трыадзінства.

Так беларускі геній Скарына, праваслаўнай традыцыі, на каталіцкай працы, паводле перакананняў евангелік, сумясціў у сабе ўсё найлепшае з канфесійнай Тройцы — і стаў постаццю №1 у нацыянальнай гісторыі.

Так трыяда сімвалаў — герб, гімн і сцяг — у Беларусі адпаведная Боскім іпастасям: «Магутны Божа» ад Бога-Айца, бел-чырвона-белы сцяг Хрыста ад Бога-Сына і імклівая «Пагоня», што перадае палымяную моц Духа Святога.

Скразіць, пераламляецца гранямі хрысціянскае трыадзінства і ў беларускай глыбіні, на Пружаншчыне, вазьмі хаця ж апошнія стагоддзе: тут і заснавальнік евангельскай царквы на Берасцейшчыне пратэстант Лукаш Дзёкуць-Малей, і найсвядомейшы перакладчык Біблії на беларускую мову праваслаўны Васіль Сёмуха, і першы з часоў падзелу Рэчы Паспалітай беларускі кардынал Казімір Свёнтак — усе ўтрох сведчылі пра Бога і дзеля жыцця Беларусі.

Перад крыжовымі пакутамі, у страшную ноч Таемнай вячэры Ісус маліўся за адзінства вучняў, якое мае захаваць чалавецтва любоўю: «Хай будуць усе адзіна, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны хай будуць у Нас адзіна — хай паверыць свет, што Ты паслаў Мяне. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім: хай будуць адзіна, як Мы адзіна. Я ў іх, і Ты ўва Мне: хай будуць паяднаныя ў адно, і спазнае свет, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх як палюбіў Мяне»... Палічыце, колькі разоў у гэтых трох біблійных вершах сказана пра адзінства!

Пакуль у нацыянальным маштабе не будзе ўсвядомлена хрысціянскае трыадзінства, пакуль любоў паміж вернікамі розных вызнанняў не сталася сутнасцю дачыненняў — шматканфесійнасць Беларусі будзе яе слабасцю. І, наадварот, дасягнутае яднанне ў справе адраджэння народа і ацалення грамадства сфармуе капітальную маральную платформу для пераменаў ды шматкроць павялічыць жыццядзейнасць і моц беларускасці.

Гэта наш народ, складзены з вобразаў і падабенстваў Божых. І гэта не з Лукашэнкі, і не з ягоных дзяцей ці чыноўнікаў, а з нас будзе спытана *там*) — ці адпалі мы следам за трацінай анёлаў, ці ўтрая мацней высільваліся, каб быць хоць трошкі бліжэй да белай-белай, зззяючай чысцінёй і святасцю краіны Айца і Сына і Святога Духа...

*Куплін*

**«Нашы» — гэта праваслаўныя, «хрысціяне» — каталікі, ну а «веруючыя», вядома, — пратэстанты »**

# Роля даносчыка ў гісторыі: справа атрада Івана Богдана

Пра невядомыя раней эпізоды Слуцкага паўстання піша **Ніна Стужынская**.

Іх імёны зусім нядаўна выйшлі з архіваў на святло жыцця. Браты Богданы, Іван і Мітрафан, Пётра Еўстрад і Міхась Бірыч былі сярод добраахвотнікаў, што ў лістападзе 1920-га запісаліся ў Першы Слуцкі полк, калі Рада Случчыны аб'явіла мабілізацыю ва ўзброеныя сілы БНР. Яны былі землякі: з вёскі Рачкавічы Чапліцкай воласці (цяпер — Слуцкі раён). Хутчэй за ўсё, добраахвотнікаў з вёскі было болей, але крыніцы ў Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці раскрылі пакуль толькі іх імёны.

Пры канцы лістапада 1920 г. Першы Слуцкі полк займаў участак фронту ад Семежава да Вызны — каля 20 км. Баявыя дзеянні пачаліся 27 лістапада.

Тым, хто сумняваецца ў «сапраўднасці» Слуцкага паўстання, варта пачытаць савецкія крыніцы — сапраўдныя франтавыя зводкі. «Семежава — сталіца Беларускай Рады. Цяжкая праца, — спачувала бальшавіцкая газета «Звезда», — выпала на долю семежаўскага рэўкама, які ахапіў раён па фронту на 70 вёрст і толькі што быў вызвалены ад беларускіх банд... Буржуазная Рада паспрабавала зноў авалодаць Семежавам, што ёй і ўдалося. Таксама яны авалодалі і іншымі савецкімі населенымі пунктамі і ўжо марылі пра захоп Слуцка...» «...18 снежня беларускія войскі ўварваліся ў мястэчка Семежава і Вызну», — паведаміляў у справаздачы і слуцкі ваенком.

У гэтых падзеях, пра якія з трывогай пісаў савецкі друк, бралі ўдзел і хлопцы з Рачкавіч.

### «Был деятелем при Белорусской оккупации»

Яны не былі навічкамі ў беларускай справе. Міхась Бірыч да паўстання па распараджэнні Слуцкай Рады быў камендантам Вызны (цяпер Чырвоная Слабада Салігорскага раёна), Іван Богдан быў войтам і кіраваў мабілізацыяй. «Он был деятелем при Белорусской оккупации, издавал приказы о мобилизации населения для изгнания большевиков из Белоруссии...» — засведчыць пазней агентурная даведка. Гэта ж трэба дадумацца: вінаваціць мясцовага чалавека ў акупацыі ўласнай зямлі! Цынізм і нахабства прасякае ўсю тагачасную палітыку саветаў на беларускіх землях.

**Слуцкі збройны чын**

Спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі. Пачаўся 27 лістапада 1920 ва ўмовах адыходу польскіх войскаў за дэмаркацыйную лінію і наступу Чырвонай арміі. Рада Случчыны, абраная 14 лістапада на з'ездзе Случчыны, абвясціла мабілізацыю ва ўзброеныя сілы БНР. Фармаваннем войска займалася ваенная тройка Нацыянальнага камітэту Случчыны П. Жаўрыд, А. Анцыповіч, П. Чайка. Была сфармавана Першая Слуцкая брыгада з двух палкоў — 1-га Слуцкага і Грозаўскага. Паўстанцы стрымлівалі наступ бальшавікоў да канца года — 31 снежня 1920 апошнія атрады случакоў перайшлі за польскую дэмаркацыйную лінію.



ПОСТАНОВЛЕНИЕ.-

1921 года ~~сентября~~ октября 5 дня. Я уполномоченный ПОО № 4 ОСИПОВ рассмотрев материал в шпионаже и бандитизме Петра ЕВСТРАДЫ Прасковьи БИРИЧ, ДУБОВИКА Василия, Тимофея БИРИЧ, КАЗАК Николая и заявление преддеревни Рачковичи, что Петр Евстрада был в бандах в I Бел. бригаде и агентом контр-разведки. Участвовал в налетах с БИРИЧ Михаилом. Прасковья БИРИЧ это все знала и помогала им в этом. Дубовик Василий по сие время снабжает бандитов Ивана и Митрофана БОГДАН продуктами. Жена Митрофана БОГДАН Мария БОГДАН определенно имеет с ним связь и ведет контр-революционную агитацию. Бецер ЯНКЕЛЬ выдал массу подпольных документов. Есть предположение не выданы поддельные безсрочный отпуск ЕВСТРАДЕ Петру приславшему 2 заявления БИРИЧА Михаила, который повесился, указывает, что Евстрада был в бандах, а также БИРИЧ Тимофей шпион и к нему часто приходят шпионы имеет оружие, произведенным обыском оружие не обнаружено у Тимофея БИРИЧ. Из рапорта т. ШВАРЦА водно, что Евстрад предупрежден след. тов. Якубович что Бирич подал на Евстрада заявление в меморандуме от 26/VIII видно, что ДУБОВИК Василий и жена Богдана Митрофана говорили, что им надо зайти к какому-то следователю, живущему на колонии так требует тот следователь т. Якубович. Дело с личностями ЕВСТРАДЫ, Петра БИРИЧ, Прасковьи, Тимофея БИРИЧ, ДУБОВИКА Василия КАЗАК Николая передать в следчасть для открытаго следствия.

УПОЛНОМОЧЕННЫЙ

УТВЕРЖДАЮ: НАЧПОГРАНОСОБОТДЕЛЕНИЯ № 4

Праўда, Богданаў загад пра мабілізацыю ў Першую Брыгаду БНР, накіраваны ім у родныя Рачкавічы і навакольныя вёскі, сяляне ўспрынялі з насцярогаю, а прадбачлівы старшыня Рачкавіцкага сельскага савета схаваў паперу ў шуфляду.

Дзякуючы таму старшыні, а дакладней, яго даносу, мы сёння ведаем імёны братоў Богданаў, Еўстрада і Бірыча. Даносы, сведчанне праяў таемных людскіх жарсцяў, настрояў і непрыгожых паводзін — змястоўныя крыніцы для рэканструкцыі гістарычных падзей. Асабліва ў часы глабальнага перадзелу маёмасці і ўлады.

### «Жывуць вельмі арганізавана, адзін другога не здадуць...»

15 жніўня 1921 г. начальнік асобага памежнага паста № 4 упаўнаважаны Розаў з заявы мясцовага старшыні сельсавета Ч. (з этычных меркаванняў не пазначаю яго прозвішча) даведаўся, што Іван Богдан вярнуўся «з бандытызму» ў родныя мясціны. (Гэта, трэба разумець, ваяры Брыгады БНР пасля адступлення на польскую тэрыторыю вярталіся дадому з лагераў для інтэрнаваных увесну 1921-га.) Але донос інфармаваў, што Богдан з хаўруснікамі зброі не склалі. У раёне Вызны дзейнічае партызанскі аддзел, паведамляў старшыня сельсавета. Ім кіруе Богдан...

Паўстанцы мелі дыслакацыю ў лесе побач з засценкам Апаміны. Жыхары забяспечвалі іх харчаваннем. («Куплялі свіней і перадавалі ў лес», — быў падрабязным у дэталях чырвоны агент.) Галоўным у службе забеспячэння быў шваґра Міхася Бірыча — Васіль Дубовік. Міхась пакідаў у дупле дрэва запіскі: што і колькі трэба падрыхтаваць. Схема пастаўкі прадуктаў была распрацаваная так, што вяскоўцы-пастаўшчыкі не сустракаліся і не ведалі адзін аднаго.

Дубовік размяркоўваў абавязкі сярод жыхароў засценка, сам у Слуцк не рызыкаваў паказвацца: па справах дасылаў людзей. Сексот, які забяспечваў інфармацыяй упаўнаважанага Розава, пісаў у чарговым данясенні: «...усе жыхары гэтага засценка ведаюць, што ў іх творыцца... Жывуць яны вельмі арганізавана, адзін другога не здадуць... А ў гэты час у іх у лесе апераваў атрад бандытаў Богдана Івана...»

### «Склалі спісы камуністаў і палохалі іх»

Са змястоўнага дакумента, агентурнай даведкі, можна даведацца, што Бірыч і Еўстрад служылі і служаць (!) у Першай Беларускай Брыгадзе, а адначасова з'яўляюцца агентамі польскай выведкі. Яны збіраюць звесткі аб становішчы ў павеце, колькасці і размеркаванні чырвоных. Яны, калі верыць даносу, склалі спісы камуністаў і палохалі іх вяртаннем палякаў.

На самой справе Пётра служыў ў выведцы Слуцкага палка пад кіраўніцтвам Яўгена Рэўта. Яшчэ да рашэння Рады Случчыны пра арганізацыю войска БНР ён у сваіх мясцінах клапаціўся пра фармаванне ўзброеных атрадаў, якія сталі асновай двух палкоў — Слуцкага і Грозаўскага.

Аднавяскоўцы былі ўдзячныя Еўстраду за заступніцтва перад польскай уладаю. Цікава, што ў Слуцку Пётра пачынаў служыць у каравульнай роце, дзе, дарэчы, пад кіраўніцтвам Рамановіча праходзілі службу і будучы кіраўнік паўстання Павал Жаўрыд, і Аляксандр Маркевіч, каптэрнамус Слуцкага палка, і шмат хто яшчэ з будучых паўстанцаў. Там, хутчэй за ўсе, Еўстрад і пранікся ідэямі паўстанцаў.

### Фатальная Параска

Расправа з непрыемнымі суседзямі рукамі новай улады — з'ява па тых часах нярэдкая. Якія прычыны меў даносчык, каб пісаць у «органы»? Было гэта жаданне новай вясковай вярхушкі засведчыць чырвонай уладзе сваю адданасць? Ці, можа, спроба адпомсціць тым, хто варожа ставіўся да яго, прадстаўніка саветаў, раней? А мо сардэчная інтрыга? Бо старшыня з сімпатыяй паглядаў на Параску Бірыч, 27-гадовую самотную вясковую прыгажуню, якая мела ва «ўхажорах» Богданавага сябрука, Міхася Бірыча.

З даносаў вынікае, што ведаў старшыня няшмат. Асноўнай крыніцай інфармацыі, відаць, былі ўсё тая ж Параска Бірыч ды старшынёўская фантазія. Тым не менш, справа закруцілася...

### Слабасць улады

У пачатку 1920-х савецкая ўлада ў Беларусі была слабая. Да былых удзельнікаў паўстання ставіліся паблажліва — інакш трэба было б арыштаваць добрую палову маладых мужчын павета. Звычайна з іх проста бралі грашовае спагнанне. Нават у сярэдзіне 1920-х, калі бальшавікі адчулі, што перамагаюць, і пачалі паказальныя працэсы над случакамі, суд абмяжоўваўся невялікімі тэрмінамі.

Таму дзіўна, што хлопцаў спасціг такі трагічны лёс. Магчыма, у справе іх выкрыцця і арышту вялікую ролю адыграла настойлівасць старшыні, які пагражаў начальніку ДОПРа, што і на яго данясе слуцкім чэкістам, калі Бірыч і Еўстрад не будуць узяты пад варту.

### Арышты

15 жніўня ў лесе побач з Апамінамі быў арыштаваны Міхась Бірыч. У верасні быў затрыманы Пётра Еўстрад. Была распачата справа і супраць іх сваякоў. Сакрэтнаму супрацоўніку памежнага аддзялення №4 Заходняга фронту, нейкаму Віктару Шварцу, быў выдадзены ордар на вобшук і арышт Цімафея Бірыча, бацькі Міхася, які хаваў зброю для партызан.

Арышту падлягаў і Мікалай Казак, вядомы на ўсю акругу партызан з вёскі Еўлічы. Але яму ўдалося пазбегнуць затрымання, яго слава няўлоўнага баевіка яшчэ доўга кацілася па навакольных вёсках. На волі заставаўся Іван Богдан. Яго сям'я была рэпрэсаваная, маёмасць перададзеная ў «камкрасхоз», бацькоў выслалі ў Архангельск... Аддзел Богдана яшчэ пэўны час аператаваў у родных мясцінах. Далейшы лёс братоў пакуль невядомы.

Дарэчы, пастанову з абвінавачаннем у бандытызме Івана і Мітрафана Богданаў падпісаў начальнік Слуцкага палітбюро (савецкага карнага органа) Бакіеў. Ёсць звесткі, што для здушэння Слуцкага паўстання выкарыстоўваліся так званыя інтэрнацыянальныя брыгады. Кітайцы былі, чаму б не быць і сыну кыргыз-кайсацкіх стэпаў?

### Бірыч не вытрымаў

Людзей сялянскай супольнасці звязвалі рознага кшталту сувязі — сваяцкія, сяброўскія, прыязныя і варожыя, вертыкалі і гарызанталі адносін. Таму не дзіва, што начальнік крымінальнага вышуку, нехта Масkaленка, дапамог Богдану і іншым здабыць дакументы для вяртання ў родную вёску. А следчы па справе Пётры Еўстрада, нехта Якубовіч, папярэдзіў хлапца, што яго сябра Міхась Бірыч не вытрымаў выпрабаванняў і перад тым, як скончыць жыццё самагубствам (ён павесіўся ў слуцкай турме), засведчыў, што Еўстрад быў разам з ім «у бандзе»...

Дый ці самагубства гэта было? Следства старанна абвінавачвала Бірыча ў яўрэйскіх пагромах у Вызне, Макранах, Морачы, Магільне — з гвалтам і рабункамі. Ці верыць у гэта? Старшыня ў даносе спасылаўся на аповед Парaскі Бірыч. Але на допыце жанчына пакажа, што нічога не ведае канкрэтна, толькі чула размову каханка-паўстанца з яго бацькам.

Дый навошта рабаваць? Богданы і Бірычы былі людзьмі дастаткова заможнымі. А сяляне з дастаткам мелі павагу да чужой уласнасці.

Да таго ж названыя вёскі — месцы, дзе адбыліся ўзброеныя сутычкі з аддзеламі Чырвонай арміі. Калі б слуцкія паўстанцы праявілі тады хоць найменшы антысемітызм, бальшавіцкая прапаганда разнесла б гэта на паўсвету.

Усё ж у гэтай трагічнай гісторыі застаецца шмат няясна. Няма нават фота яе герояў, шырэйшых біяграфічных звестак. Запоўніць прабелы мы здолеем, калі з'явіцца вольны доступ да архіваў КДБ. Магчыма там, у засакрэчаных папках, ляжаць адказы на пытанні, як загінуў Міхась Бірыч і куды далей павёў лёс братоў Богданаў.

## ХАКЕЙ

### Малкін у Мінску

**Дзве найбольшыя зоркі расійскага хакея** — Авечкін і Кавальчук — ужо наведалі Мінск. Цяпер прыедзе трэці — Яўген Малкін. Ягоны магнітагорскі «Металург» сустрэнецца з нашым «Дынама». Гульня адбудзецца 30 лістапада а 19.00 на «Мінск-Арэне».

## ФУТБОЛ

### «Баварыя» — БАТЭ

**5 снежня барысаўскі БАТЭ** скончыць групавы этап Лігі чэмпіёнаў гасцявой гульнёй з «Баварыяй». Матч адбудзецца на мюнхенскай «Альянц-Арэне». Пачатак а 22.45 па беларускім часе. Трансляцыя будзе на «Беларусь-2».

## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — «Берлін»

**2 снежня ў Палацы спорту** пройдзе матч Лігі чэмпіёнаў «Дынама» — «Берлін» (Германія). Пачатак а 17. Білеты — 30 тысяч.

## КАНЦЭРТЫ

### Умка і Бранявічок

**29 лістапада ў 19.30 у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — канцэрт «Умкі і Браневічка».

### Дзіцячае «Еўрабачанне»



**1 снежня ў Амстэрдаме (Галандыя)** пройдзе дзіцячы песенны конкурс «Еўрабачанне». Пачатак трансляцыі на «Беларусь-1» а 21:15. Беларусь будзе прадстаўляць 12-гадовы Яўген Жэшка.

### Океан Ельзи

**7 снежня а 20-й на «Мінск-Арэне»** — вялікі канцэрт украінскага рок-гурту «Океан Ельзи». У наступны раз магчымасць пачуць украінскіх рокераў з'явіцца не хутка.




**«Узімкі»**

**2 снежня а 18-й клуб-кавярня «Лісіная нара» (Каліноўскага, 32)** запрашае на фестываль «Узімкі». Упершыню за некалькі гадоў на сцэну выйдзе гурт «Яр». Пасля паўзы пакажа свае новыя песні адроджаная «Альтанка». Колішні фронтмэн «Альтанкі» Дзмітры Лук'янчык прадставіць свой новы гурт «Лук'ян Трыа». А ўпрыгожаннем канцэрта стануць Паліна Рэспубліка і Аляксандр Памідораў.

### Pomidor/Off і Green Pills

**28 лістапада 19-й у Салтайме (пр. Незалежнасці, 131/1)** — паўакустычны канцэрт гурту Pomidor/Off, а таксама дэнскор беларускага замесу ад гурту Green Pills.

### Даўніна і сучаснасць

**28 лістапада а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт «Даўніна і сучаснасць». Прагучаць творы М.К.Агінскага, Я.Голанда, М.Радзівіла і іншых.

## ВЫСТАВЫ

### Марк Шагал

**Да 28 студзеня 2013 у Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Марк Шагал: жыццё і каханне» з калекцыі Музея Ізраіля (Іерусалім). На выставе прадстаўленыя кніжныя ілюстрацыі мастака, якія адлюстроўваюць шматграннасць асобы майстра.

### Фэст кнігі

**Да 2 снежня ў Палацы мастацтваў (Казлова, 3)** працуе рэспубліканская мастацкая выстава «Фэст кнігі». На выставе прадстаўленыя звыш 100 ілюстрацыяў да кніг, выкананыя А.Кашкурэвічам, Г.Паплаўскім, Е.Лось, М.Басалыгам, М.Селешчуком, У.Савічам і іншымі майстрамі.

### Кола агню

**Да 9 студзеня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Кола агню» па выніках X Міжнароднага пленэру па кераміцы «Арт-жыжаль». Керамічныя вырабы, наватарскія паводле задумы і выканання, ствараліся з выкарыстаннем старажытных беларускіх тэхналогій: ганчарная і ручная фармоўка, дымленне, гартаванне ў разнастайных кампазіцыйных спалучэннях…

### Першая Мінская трыенале сучаснага мастацтва

**Першая Мінская трыенале сучаснага мастацтва «БелЭкспа-Арт-2012» працуе да 9 снежня ў Нацыянальным выставачным цэнтры «Белэкспа» (пр. Пераможцаў, 14).** Асноўная ідэя выставы заключана ў тым, каб прадставіць сучаснае беларускае мастацтва ва ўсёй яго разнастайнасці: жывапіс, скульптура, графіка, фатаграфія, інсталяцыя, музыка, мода, тэатр.

### Тэхна-арт. Альтэрнатыўная энергія

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1) да 1 снежня** працуе выстава «Тэхна-арт. Альтэрнатыўная энергія». Восьмая выстава з серыі ўнікальнага праекта «Тэхна-арт» прадставіць работы мастакоў, фатографаў, дызайнераў, скульптараў, прысвечаныя праблеме больш шырокага выкарыстання новых і ўзнаўляемых крыніц энергіі.

### Пасляваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева

**Да 6 студзеня ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава «Паваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева». У 1941 г. Анатоль Наліваеў з дзяцінства меў фатаграфічную памяць і ўжо з 14 гадоў таемна маляваў разбураны вайной Мінск (у 1940-1950-я гады фатаграфаваць і маляваць сталіцу Беларусі было забаронена).



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Кубак чэмпіёнаў-2012»**

**1-2 снежня ў Мінску** ў галоўным выставачным павільёне «БелЭкспа» (вул. Янкі Купалы) 27 пройдзе займальнае шоу пародзістых сабак «Кубак чэмпіёнаў-2012».

## ТЭАТРЫ

### 29 лістапада

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 30 лістапада

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Лялек** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

### 1 снежня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 2 снежня

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 4 снежня

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

## КІНО

### Дзеці ў вампірскім свеце забароненыя

**Прыцемкі. Сага. Досвіткі — Частка 2** (The Twilight Saga: Breaking Dawn — Part 2)
ЗША, 2012, 112 хв.
**Рэжысёр:** Біл Кондан
**Ролі выконваюць:** Крыстэн Сцюарт, Роберт Пацінсан, Тэйлар Лотнэр, Пітэр Фачынэлі, Элізабэт Рызэр
**Жанр:** Дзявочая вампірская меладрама
**Адзнака:** 4 (з 10)

Бэла сталася вампірыхай і гадуе дзяўчынку са сваім мужам Эдвардам і сябрам-ваўкалакам Джэйкабам. Але клан Вальтуры ідзе вайною на шчаслівую сямейку, бо дзеці ў вампірскім свеце забароненыя. Пахаладзелая матуля горача абараняе сваю дачку.

Вампірская сага, што выклікала масавую дзявочую істэрыю па ўсім свеце, нарэшце, завяршылася. Карціна, мастацкія вартасці якой — справа дзясятая, сілкуецца людскімі жаданнямі і прапануе фальшывую вечнасць. Дзяўчынкі хацелі кахання ажно да магілы — вось вам каханне пасля магілы.

Паважаны жанр страшнага кіно канчаткова выраздзіўся ў саладжавую мыльную оперу, і 20 хвілінаў фінальнай бойкі — чарговы падман. Зло адбелена, запрошана — і адпачывае на поплаве з фіялетавымі кветкамі. «У нас наперадзе цэлая вечнасць!»

І гэтага шчасця — дзве гадзіны; яны апошнія.

**Андрэй Расінскі**



# «Я магу зрабіць так, каб пра вас гаварылі дрэнна»

Гісторыя поспеху «бажэсцвеннага Зураба», часопіса Pinguin і **Ірыны Кабасакал**.

Ірына Кабасакал — эпатажная рэдактарка і «рухавік» глянцавага часопіса Pinguin. Выданне стала вядомым, калі ўім з'явіўся артыкул пра «Бажэсцвеннага Зураба», чалавека з элітнай тусоўкі, з якога смяяўся ўвесь інтэрнэт. Чаму Зураб — выбітная асоба, даведацца з артыкула так і не ўдалося. Вядома, што ён «аддае перавагу толькі найлепшаму», любіць ездзіць у Альпы, дзе «два тыдні сігае з гары» і часам ходзіць у оперу, бо «любіць, як тыя спяваюць». Зураб зрабіў Pinguin набыткам інтэрнаўтаў, а нумар з ім на вокладцы стаў сапраўдным рарытэтам.

У пачатку сустрэчы са студэнтамі Кабасакал расказвае пра сваё дзяцінства: як з чацвёртага класа вырашыла хадзіць у «элітную школу з французскай мовай» і як за пару месяцаў дагнала ўсіх аднакласнікаў у вывучэнні французскай. Пра тое, як атрымала залаты медаль, бо так захацела яе мама. Па жаданні мамы Ірына пайшла вучыцца ў медыцынскі ўніверсітэт. У першы ж дзень размеркавання на хуткай дапамозе Ірына «прыйшла ў жах ад таго, што ўбачыла», і паралельна пачала кар'еру ў медыябізнэсе.

«Мне трапіўся ў 1988 у рукі часопіс Burda, і мне захацелася мець свой, уласны часопіс», — узгадвае Кабасакал. Праца радыёвядучай паступова прывяла яе да рэдактарства ў часопісе Pinguin.

«Пасля матэрыялу пра Зураба наведвальнасць сайта ўзнялася ў пяцьдзясят тысяч разоў. Ад пачатку на вокладцы мусіў быць іншы чалавек, але ён адмовіўся на карысць Зураба, — расказвае Кабасакал. — І не трэба казаць, што яго ніхто не ведае — Зураб вядомы ў пэўных колах, досыць шырокіх. Ён сказаў мне: «Я хачу, каб пра мяне гаварыў увесь горад». Я адказала: «Я магу зрабіць так, каб гаварылі дрэнна, бо добра ў нас ні пра каго не гавораць. І ўвогуле крыўдна, я лічу сябе цікавым чалавекам, а ўсе пытаюцца толькі пра Зураба».

На пытанне пра мэтавую аўдыторыю Pinguin кажа, што гэта сярэдні і вышэйшы класы, а таксама людзі, якія хочуць стаць паспяховымі. «Прыбытак мы маем з рэкламы, — кажа Кабасакал. — Але часткова распаўсюджваем часопіс бясплатна. І мы адзіны часопіс, які можна купіць на запраўках. Наклад складае 7000 асобнікаў і ўвесь час расце, таму папулярнасць мы не губляем».

Атмасферы лёгкага і нязлоснага падколвання пазбегчы не ўдалося — слухачы прыйшлі не толькі паслухаць гісторыю поспеху Кабасакал, колькі добра прабавіць час. На развітанне яна пажадала прысутным «не шукаць хібаў у іншых, бо мы знаходзім у іншых тыя хібы, якія ёсць у нас». На тым і разышліся.

**Юрась Ускоў**



Ірына Кабасакал любіць прыгожае жыццё.

**Фотафакт**




**ДАІ распрацавала новы дарожны знак. Ён паказвае, колькі чалавек загінула на небяспечным участку дарогі. Сем такіх знакаў ужо ўстаноўленыя на МКАД.**

**Тэлефанія**

## Velcom прапануе бясплатную падзарадку мабільнікаў

У людных месцах Мінска з'явіліся **боксы з зарадавымі прыладамі**.

Аператар мабільнай сувязі Velcom зрабіў сваім абанентам прыемны падарунак. У цэнтрах падключэння, а таксама ў іншых людных месцах Мінска кампанія ўсталёўвае спецыяльныя скрынкі са сваім лагатыпам. У кожнай з іх, папрасіўшы ў адміністратара ключ, можна пакінуць свой мабільны тэлефон, каб той падсілкаваўся. Кліентам даступныя розныя штэкеры, у тым ліку і для прадукцыі Apple.

Па словах супрацоўнікаў Velcom, магчыма, што фірмовыя скрынкі з'явяцца ў ГУМе, на вакзалах і ў аэрапорце.

Раней на некаторых мінскіх вакзалах стаялі апараты для падзарадкі мабільнікаў, але паслуга была нязручнай. Па-першае, за яе трэба было плаціць, па-другое, ад тэлефона нельга было адыходзіць, бо яго мог забраць кожны ахвотны.

Хоць скрынкі і належаць Velcom, правяраць, ці з'яўляецеся вы кліентамі менавіта гэтай кампаніі, ніхто не будзе. Карыстацца новай паслугай могуць і абаненты іншых аператараў.

**ЯМ**




## Сцісла

### Першы агратурыстычны курорт будзе на Валожыншчыне

Тут ужо адкрылі турыстычна-інфармацыйны цэнтр і распрацавалі маршрут «Валожынскія гасцінцы». Для мясцовых аграсядзібаў прыдумаюць агульную адметнасць, якую і будуць рэкламаваць. Услед збіраюцца аб'яднаць высілкі аграсядзібы ў Расонскім і Дрыбінскім раёнах. У апошнім будуць прываблівацьтурыстаў шапавальствам — ручным вырабам валёнак.

### Выпушчаныя шкарпэткі, трусы і майкі, якія паглынаюць пах цела

Японская тэкстыльная кампанія Seiren пачала продаж незвычайнай бялізны. Тканіна, з якой яна зробленыя, паглынае непрыемныя пахі. У аснове ляжаць керамічныя часціцы, інтэграваныя ў валокны тканіны. У першую чаргу, прадукт разлічаны на пацыентаў, якім неабходны догляд. Таму бальніцы могуць стаць асноўнымі пунктамі продажаў.

### У цягніку на Варшаву будуць трохузроўневыя купэ

Вагоны другога класа з трохмясцовымі купэ пачнуць хадзіць па маршруце «Мінск—Варшава» з 8 снежня. Купэ будуць вузейшыя, але затое ў іх змяшчаюцца тры паліцы, адна над адной.

### Смяротны сэкс: каханка спрабавала задушыць немца вялікімі грудзьмі

Паліцыя Германіі затрымала жанчыну, якую падазраюць у замаху на забойства. Прычым прыладай злачынства стаў вялікі бюст 33-гадовай зламысніцы. Імі жанчына спрабавала задушыць бойфрэнда падчас сэксу. Нейкім цудам мужчыну ўдалося вырвацца з абдымкаў 82-кілаграмовай сяброўкі і патэлефанаваць у паліцыю.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На Славянскі марш у Магілёве сабралася 18 чалавек. Удзельнікі скандавалі «Слава Расіі».

Заяўнікам акцыі выступіў магілёвец Дзмітрый Дзенісенка як прыватная асоба. Шэсце прайшло з кіламетр вуліцай Чалюскінцаў да стадыёна ДК Завода штучнага валакна..

Удзельнікі хацелі выкарыстаць расійскія манархічныя чорна-жоўта-белыя сцягі, але гарвыканкам забараніў. У выніку абмежаваліся шалікамі ў імперскіх колерах з надпісам «Русь».

З вядомых людзей на мітынгу прыехаў Сяргей Рыжоў з Віцебска, які ўдзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. Аратары выступалі за аб'яднанне славян у адзінай і вялікай Расійскай дзяржаве.

Шэсце суправаджалі 8 міліцыянтаў. Адзін хлопец, з выгляду футбольны фанат, запытаўся ў міліцыянта, ці можна крычаць White power — «Белая сіла», традыцыйны расісцкі слоган. Але міліцыянт сказаў, што нельга, бо ў заяўцы такіх лозунгаў не было.

Людзі на вуліцах на шэсце ніяк не рэагавалі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**БАТЭ прабіўся ў плэй-оф Лігі Еўропы. Хай і нягегла: 20 лістапада ў Мінску барысаўцы прайгралі «Лілю» 0:2.**

**Немец Себасцьян Фетэль, які выступае за «Рэд Бул», трэці раз стаў чэмпіёнам «Формулы-1». 25-гадовы Фетэль — самы малады гоншчык у гісторыі «Формулы-1», якому тройчы запар удалося перамагчы.**




## Анекдоты

### Дарэчы, пра «ў квадраце».

Васіль Іванавіч, а чаму ў цягніка колы стукаюць, яны ж круглыя?

— Формулу круга ведаеш, Пецька?

— Ну, пі-эр-квадрат, Васіль Іванавіч.

— Дык вось, квадраты і грукочуць.

### Памылі сучку

У мясцовасці N. малады гаспадар з сябрамі закацілі імпрэзу. Пасля некаторага часу ўзгадалі, што трэба вывесці сабаку на шпацыр (пароду не памятаю, але здаравенны як конь). Паколькі выходзіць нікому не хацелася, то проста выпусцілі яго пабегаць па двары. Праз нейкі час сабака вяртаецца ўвесь у брудзе, нейкім пяску, балоце, а ў зубах трымае дробненькую нежывую суседскую сучачку. Хлопцы ў шоку. Доўга не думаючы, узяліся адмываць бедную сучачку. Занеслі ціхенька яе ў двор да суседа і паклалі ў буду мордчакай наперад, на лапках, быццам цікуе на падворак.

На раніцу малады гаспадар выходзіць на двор і бачыць, што сусед (уладальнік сучачкі) ходзіць каля дома і нервова паліць цыгарэту за цыгарэтай.

— Сусед, што сталася, нешта ты нядобра выглядаеш? — пытаецца малады.

— Ды нічога не магу зразумець, — кажа мужчына, паглядаючы на буду ў сваім двары. — Два дні таму здохла мая сучка, і я пахаваў яе ў садзе, а сёння ўстаю раніцай і бачу: яна чыстая ляжыць у сваёй будзе.

**Дзмітры Г.**

* * *

— Запісаў сваю жонку на каратэ.

— Ну і як?

— Навучыўся пыласосіць, гатаваць, а ад прання проста пруся!

* * *

— Дарма адмаўляешся, пельмені з мяса, без соі...

— Мо яны і з мяса, але звычайна ў кінатэатр бяруць папкорн.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Фінляндскі сенат скасаваў** стыпендыі сямідзесяці чыноўнікаў на падарожжа ў Маскву, каб навучыцца расейскай мовы.

**«НН». №47. 1912.**

**Сярод кіраўнікоў дзяржаваў** не толькі СНД, але і ўсяго свету найчасцей наведваў Крэмль Аляксандр Лукашэнка.

**«НН». №44. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 27.11.2012.
Замова №5093.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12